№ 40 (781) 31 кастрычніка 2012 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая … 9… Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Пад Вільняй танней, чым на Ждановічах

Рэпартаж з рынка Гаруны. Старонка 5.



## Гімнастка Тур зламала шыю праз два дні пасля вяселля

Яе ўжо перавялі з рэанімацыі ў звычайную палату. Старонка 8.

# Мы можам быць не толькі хамячкамі



У Вільні прайшоў мегаканцэрт «Ляпіса Трубяцкога». Старонка 11.

АКСАНА РУДОВІЧ

Тэндэнцыі

## Андрэй Саннікаў атрымаў прытулак у Вялікабрытаніі

**Саннікаў быў самым жорсткім крытыкам Аляксандра Лукашэнкі на апошніх прэзідэнцкіх выбарах.**

Як высветлілася, былы палітвязень ужо ад жніўня знаходзіцца ў Лондане. Пакуль ён жыве ў сястры Ірыны Багданавай. Жонка Саннікава Ірына Халіп пацвердзіла, што Андрэй сапраўды атрымаў палітычны прытулак, але сям’я вырашыла не каментаваць гэтае рашэнне.

Сама Ірына Халіп, якая знаходзіцца на «хатняй хіміі», і сын Данік застаюцца ў Беларусі.

«Для мяне гэта было нялёгкае рашэнне. Але, паверце, іншага выйсця не было. Я быў і застаюся беларускім палітыкам. Буду працягваць даносіць праўду пра маю краіну і дамагацца таго, каб былі прыняты канкрэтныя меры дапамогі дэмакратычнай Беларусі. Лічу, што маё рашэнне дапаможа рэальнаму вызваленню маёй жонкі і сына, якія знаходзяцца ў закладніках у рэжыму Лукашэнкі», — заявіў палітык у інтэрв'ю charter97.org.

Андрэй Саннікаў — каардынатар кампаніі «Еўрапейская Беларусь», былы намеснік міністра замежных справаў. Доўгі час ён быў адной з відных асобаў у апазіцыі, але не выходзіў на галоўныя ролі. У 2010 ён вырашае балатавацца на прэзідэнта. За Саннікавым стаяў адзін з найпапулярнейшых палітычных сайтаў «Хартыя-97».

**Працяг на старонцы 3.**

«Выбары»-2012

### Назіральнікі злавілі «карусельшчыкаў»

Такога на выбарах яшчэ не было.

**Старонка 9.**



Грамадскі клопат

### «Спыніць «Бульбашьхол» можа толькі прэзідэнт»

Будаўніцтва ў Курапатах працягваецца. **Старонка 7.**



Адстаўка

### «Купляйце наручнікі!»

Пяць фактаў пра міністра Алега Качана.

**Старонка 4.**



Шоу-біз

### Джыгурда вучыў любіць па-руску правільна

Фрык Джыгурда даў канцэрт у Мінску. **Старонка 15.**



# «Дом хістаецца, я прывык. Ён цэлы дзень хістаецца»

Беларусы ЗША ў эпіцэнтры ўрагану «Сэндзі».

Знакаміты хмарачос «Эмпайр Стэйт Білдынг» на рагу 5-й авеню ў цемры. У некаторых раёнах Нью-Ёрка прапала электрычнасць.

Паводле апошняй інфармацыі, ахвярамі ўрагану «Сэндзі» ў ЗША і Канадзе сталі больш за 10 чалавек, паведамляе Бі-Бі-Сі.

У эпіцэнтры стыхіі апынуліся і беларусы. «Да таго, што дом хістаецца, я прызвычаіўся, ён цэлы дзень хістаецца. А вось што электрычнасць скача, усё часцей і часцей лямпачка міргае, мне не падабаецца. Бо што рабіць без інтэрнету і камп'ютара?», — Яўген Іванюк, які жыве ў Нью-Ёрку, рэгулярна выкладае навіны з затопленага горада ў Фэйсбуку.

«Дазваніўся да сябра, ён жыве ў Коні-Айланд, там вада па першы паверх, машыны пазатаплівала, электрычнасці няма. Быў толькі што на вуліцы, вецер моцны ў некалькіх блоках ад мяне ўжо няма электрычнасці, паваленыя дрэвы і вялікія галіны. Калі раптам перастану пісаць, то ў мяне адключыла электрычнасць, бо з навінаў вылядае, што частка Брукліна абясточаная».

СП



Фотафакт

## У Горках паставілі пандус у нікуды



Каля ганка першага навучальнага корпуса Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ўсталявалі пандус для людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Праўда, як гэтым патрэбным элементам можна скарыстацца — няясна.

## Зміцера Дашкевіча пераводзяць у крытую турму да канца тэрміна

Такое рашэнне прыняў мазырскі суд, які цягнуўся 10 хвілін.

Лідара «Маладога фронту», зарэгістраванага ў Чэхіі, перавядуць з калоніі ў турму. Прычына — Дашкевіча прызналі «злосным парушальнікам рэжыму». Дзіўна, калі паспеў ён ім стаць, бо адразу пасля прыбыцця ў папраўчую калонію № 20 Мазыра Зміцер Дашкевіч быў змешчаны ў штрафны ізалятар, а затым — у памяшканне камернага тыпу.

Зміцер Дашкевіч адбывае пакаранне, нібыта за бойку ўчыненую перад Плошчай-2010. Яго прысудзілі да 2 гадоў калоніі, а потым яшчэ падоўжылі тэрмін на год.

Пакуль невядома ў якую турму пераведуць Зміцера. Адвакат Дашкевіча на працэсе не прысутнічаў, бо палітвязень лічыць, што гэта б не змяніла сітуацыю.

МБ

## Памёр бацька Анатоля Лябедзькі

Уладзімір Лябедзька разам з жонкай жыў у вёсцы Трылес (Стаўбцоўскі раён).

У 2008 годзе лідар АГП у інтэрв'ю «НН» казаў пра свайго бацьку: «Бацька мой усё жыццё працаваў на зямлі. Ён з пароды тых, каго ў 1930-я раскулачвалі. Чалавек фантастычна працавіты і сквапны да працы.

У яго заўсёды было больш зямлі, чым трэба. Ён выязджаў у лес, дзе раскарчоўваў дзялянкі, і радаваўся як дзіця, калі старшыня калгаса з пяці дзялянак знаходзіў толькі дзве. Яму ўжо 70 гадоў, а ўсё яшчэ працягвае трымаць вялікую гаспадарку, бо не можа інакш. У маці маёй адзіны боль — калі я ўжо скончу займацца палітыкай, яна вельмі веруючы чалавек».

«Бацька зрабіў амаль немагчымае - сабраў разам усіх родных і сваякоў. Тых, што не бачыліся гадамі, тых, хто меў нейкія крыўды, тых, хто здалёк, тых, хто ўжо, здаецца, не падымаўся з ложка. Да яго заўсёды цягнуліся людзі!» — напісаў пасля пахавання Анатоль Лябедзька.

«Толькі бацька заўсёды на маім баку, бо лічыць, што нехта ж гэта павінен рабіць. Калі я выйшаў з «амерыканкі», бацька сказаў: «Сынок, я не сумняваўся ў табе ні хвіліны».

ЗП

### Сціслa

**Новы антырэкорд сальда гандлю**

За верасень яно склала мінус 358 мільёнаў. І гэта без уліку вяртання мытаў у расійскі бюджэт. Агулам жа з пачатку года сальда года пакуль яшчэ складае станоўчыя $1,3 мільярда.

**Rzeczpospolita: Эксперты знайшлі сляды выбухоўкі на рэштках Ту-154**

Польскія спецыялісты выкарыстоўвалі сучаснае абсталяванне. Яно паказала, што на рэштках самалёта Качынскага, што разбіўся ў Катыні, ёсць сляды трацілу і нітрагліцэрыну. Вынікі экспертызы ўжо вядомыя генеральнаму пракурору Анджэю Сэрэмэту, а ён накіраваў іх прэм'ер-міністру Дональду Туску.

**У Курапатах скралі мемерыяльны знак...**

Памятны знак паставілі 29 кастрычніка ў памяць аб афіцэрах польскай арміі, расстраляных у 1940–1941 гадах. Сярод іх былі тысячы ўраджэнцаў Заходняй Беларусі. На наступны дзень ён прапаў.

**Мінчук нападаў на дзяўчат, хапаў і мацаў**

Ён прызнаўся, што здзейсніў каля дваццаці нападаў. Па словах затрыманага, хуліганскія дзеянні ён здзяйсняў у мікрараёнах Кунцаўшчына, Каменная Горка, Захад, Сухарава.

**Кім Чэн Ын звадзіў жонку на канцэрт і футбол**

Жонка кіраўніка КНДР Кім Чэн Ына з'явілася на публіцы, упершыню за два месяцы, аспрэчыўшы тым самым чуткі пра сваю магчымую цяжарнасць ці німіласць. У панядзелак Лі Соль Чжу разам з мужам пабывала на канцэрце і на футбольнай гульні ў Пхеньяне.

**Саўндтрэк да «Брудных танцаў» найлепшы для сэксу**

Такія звесткі выяўленыя падчас даследавання, праведзенае ў лонданскім універсітэце Голдсміт. Больш за 40% людзей мяркуюць, што праслухоўванне музыкі падчас сэксу выклікае больш эмоцый, чым дотыкі.

**Пад канец тыдня істотна пацяплее**

Будзе да +12°C. Заўважна пацяплее ў пятніцу 2 лістапада, на Дзяды.

ЗП



### Самае чытанае на nn.by 24-30 кастрычніка

1. Дзяды ў Курапатах — анлайн
2. Саннікаў атрымаў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі
3. «Маці насіла перадачы сыну два гады пасля расстрэлу»
4. «Ляпісы» «блакавалі мяжу»: на пераходах творыцца нешта неймавернае
5. Мегаканцэрт «Ляпісаў» у Вільні: накал жарсцяў, параўнальны з Плошчай — фотарэпартаж
6. Маладафронтавец Мікола Дзямідзенка ажаніўся з прыгажуняй Алесяй Раманюк — фота
7. Царкавая гімнастка Тур зламала шыю праз два дні пасля вяселля - фоты
8. Масква прапануе Беларусі вярнуць у расійскі бюджэт $1,5 млрд мытаў
9. Іспанскі комплекс. БАТЭ — «Валенсія»: 0:310 Някляеў: Сябры сыпанулі дробным гарохам — інтэрв'ю

# Андрэй Саннікаў атрымаў прытулак у Вялікабрытаніі

Працяг са старонкі 1.

Падчас выбараў Саннікаў быў адным з найбольш рэзкіх крытыкаў улады. Менавіта яму належыць фраза: «Пара мяняць лысую рызіну». На тых участках у Мінску, дзе лічылі галасы, Саннікаў упэўнена займаў другое месца пасля Лукашэнкі. Павінен быў быць другі тур.

Пасля Плошчы, як і іншыя кандыдаты, ён апынуўся за кратамі. На судзе Саннікаў рабіў заявы пра катаванні ў «амерыканцы». Ягоныя словы былі сугучныя тым, што раней гаварыў Алесь Міхалевіч.

У выніку Саннікаў быў асуджаны на 5 гадоў калоніі (болей атрымалі толькі Мікалай Статкевіч і Дзмітрый Ус). З турмы прыходзілі звесткі пра розныя формы ўціску на кандыдата. «Мая адседка скончылася ў верасні, далей пачаліся катаванні. Мяне спрабавалі давесці да самагубства», — казаў па вызваленні палітык. Восенню летась Саннікаў падпісаў прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі. На волю выйшаў у ноч Вялікдня 14 красавіка.

Пасля гэтага Саннікаў даў толькі адну прэс-канферэнцыю, болей з журналістамі ён не размаўляў. «Яшчэ адзін ціск — і тыя балбатуны, якія выйшлі на свабоду, вернуцца ў калонію», — сказаў праз пару дзён пасля вызвалення Саннікава і Бандарэнкі Аляксандр Лукашэнка.

Былыя кандыдаты ў прэзідэнты ў асноўным сказалі пра ад'езд за мяжу, што гэта асабістая справа Саннікава, і галоўнае, што ён будзе ў бяспецы. Толькі Уладзімір Някляеў адмовіўся каментаваць гэтае рашэнне.

**Зміцер Панкавец**

**Казулін: Магу гаварыць толькі за сябе**

Былы палітвязень не захацеў ацэньваць рашэнне Андрэя Саннікава.

«Я магу гаварыць толькі за сябе, калі да мяне ў турме звярталіся з прапановамі аб эміграцыі, то вы ведаеце, што я адказаў. Калі мой лёс звязаны з краінай, то трэба заставацца тут».

Ці магчыма з эміграцыі рабіць карыснае для Бацькаўшчыны? «Калі працаваць супольна з тымі сіламі, што засталіся на Радзіме, то магчыма. Калі ж будзе ў адрыве ад рэальных падзей, то нічога добрага не атрымаецца».

**Бандарэнка: У Саннікава быў выбар — ісці зноў у турму ці нічога не рабіць**

Паплечнік Андрэя Саннікава, былы палітвязень Зміцер Бандарэнка яшчэ ў пачатку верасня прыняў рашэнне застацца ў Польшчы. «НН» папрасіла Змітра пракаментаваць сітуацыю з Саннікавым.

«Я лічу, што гэта разумнае рашэнне. У Андрэя быў выбар: або зноў ісці ў турму, альбо нічога не рабіць. Саннікаў быў і застаецца адным з лідараў апазіцыі, ён патрэбен жывы і дзеяздольны».

Ці кансультаваўся Саннікаў з Бандарэнкам, калі прымаў гэтае рашэнне? «Я знаходжуся ў Варшаве, а Андрэй — у Вялікабрытаніі. Не бачыліся з ім некалькі месяцаў. Але абмяркоўвалі розныя пытанні, у тым ліку і гэтае».

«Сям'я Андрэя застаецца ў закладніках, — кажа Зміцер Бандарэнка. — Хаця мне здаецца, што гэтае рашэнне Саннікава дапаможа хутчэйшаму ўз'яднанню з Ірынай і Данікам».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Хто яшчэ за мяжой**

Амаль увесь касцяк каманды Андрэя Саннікава быў вымушаны пасля выбараў-2010 з'ехаць з краіны. У Польшчы знаходзяцца кіраўнік штаба Саннікава Уладзімір Кобец, паплечнік і сябра Зміцер Бандарэнка, рэдактарка сайта «Хартыя-97» Наталля Радзіна, рэгіянальны лідар Зміцер Барodка. У Літве былы лідар «Зубра» Яўген Афнагель. З'ехаў нават ахоўнік Саннікава Леанід Навіцкі, ён цяпер у Францыі. У Вялікабрытаніі кіраўнік «Свабоднага тэатра» Мікалай Халезін.

Таемна з'ехаў з краіны яшчэ адзін кандыдат у прэзідэнты — Алесь Міхалевіч. Ён атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі, але жыве ў асноўным у Польшчы і Германіі.

Паміж Нью-Ёркам, Варшавай і Прагай праходзіць жыццё лідара КХП-БНФ Зянона Пазняка, які разам з Сяргеем Навумчыкам быў адным з першых палітуцекачоў за часамі Лукашэнкі.

У Германіі знаходзіцца былы камандзір мар'інагорскага спецназа Уладзімір Барадач, які хоча стварыць у эміграцыі ценевы ўрад.

З'ехалі з краіны не толькі палітыкі. Напрыклад, у Польшчы знаходзяцца былая рэдактарка «Камсамолкі» і «Еўрарадыё» Юлія Слуцкая і сацыёлаг Андрэй Вардамацкі. Яны былі блізкія да «Гавары праўду».

**ЗП**

## «Я — не дыктатар, гэта сто працэнтаў»

**Незайздросны лёс** апанентаў Лукашэнкі.

У інтэрв'ю брытанскай газеце «Індэпэндэнт» і тэлеканалу Бі-бі-сі Аляксандр Лукашэнка адхіліў абвінавачанні на свой адрас. «Тое, што я не дыктатар, — гэта сто працэнтаў так, бо гэта супярэчыць наогул маёй сутнасці. Я дэмакрат больш, чым вы, нават у вашым разуменні гэтага працэсу і гэтага слова. Я свабоду чалавека цаню вышэй за ўсё», — заявіў ён.

Мы вырашылі прасачыць лёс асноўных апанентаў Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах розных гадоў.

### 1994.

**Зянон Пазняк: эміграцыя**



На першых прэзідэнцкіх выбарах лідар БНФ набраў 13% галасоў, заняўшы трэцяе месца. У 1996, пазбягаючы арышту, быў вымушаны пакінуць краіну. Атрымаў палітычны прытулак у ЗША, працягвае ўзначальваць КХП-БНФ. Спрабаваў вылучаць сваю кандыдатуру на выбарах 2001 і 2006, але кандыдатам не стаў.

**Станіслаў Шушкевіч: пазбаўлены пенсіі**



Яшчэ адзін беларускамоўны кандыдат на тых выбарах набраў 10%. Шушкевіч пазбег турмы, але быў пастаўлены за рысу выжывання. Пенсія першага кіраўніка незалежнай Беларусі складае... 3200 рублёў. Як некалі пастанавіў Вярхоўны Савет, так лічба больш не павялічвалася, нягледзячы на дэвальвацыі. Каб мець на што жыць, Шушкевіч у свае гады вымушаны чытаць лекцыі за мяжой.

### 1999.

**Віктар Ганчар: знік**



У той год апазіцыя спрабавала арганізаваць альтэрнатыўныя прэзідэнцкія выбары, бо тэрмін Лукашэнкі мінуў, але быў падоўжаны на два гады. Віктар Ганчар быў адной з найбольш яркіх фігур тых падзей. Віктар Ганчар знік у верасні 1999 разам са сваім сябрам Анатолем Красоўскім. Справа так і не расследаваная. У знікненні падазраюцца высокапастаўленыя чыноўнікі таго перыяду.

**Міхаіл Чыгір: суд усёй сям'і**



Адзіны лукашэнкаўскі прэм'ер-міністр, які сышоў па ўласным жаданні. У сакавіку 1999 арыштаваны за перавышэнне службовых паўнамоцтваў. Двойчы быў асуджаны за дтэрміноўкай. Таксама заводзіліся крымінальныя справы на сына і жонку Чыгіра. Цяпер займаецца бортніцтвам, сябар АГП.

### 2001.

**Уладзімір Ганчарык: часовая эміграцыя**



Адзіны кандыдат ад апазіцыі хутка пасля выбараў страціў пасаду ў Федэрацыі прафсаюзаў, якая перайшла ў рукі дзяржавы. Па выбарах Ганчарык быў вымушаны часова выехаць у Расію, але вярнуўся ў Беларусь. Праз узрост не ўдзельнічае актыўна ў палітычным жыцці.

**Сямён Домаш: інфаркт**



Кандыдат з Гродна даў дарогу Ганчарыку, але заставаўся папулярным, асабліва ў шэрагах моладзі. Перад самымі выбарамі яго зваліў інфаркт. Некаторыя казалі, што здарылася гэта пасля запісу выступу на БТ, калі ён адпіў са шклянкі з вадой. Доўга палітык папраўляў здароўе. Ад 2006 узначальвае «Гродзенскае вытворчае гарбарнае аб'яднанне».

### 2006.

**Аляксандр Казулін: турма, смерць жонкі**



Казулін смела павёў людзей да Акрэсціна, каб выказаць салідарнасць з арыштаванымі ўдзельнікамі Плошчы. За гэта прафесар, былы рэктар БДУ атрымаў 5,5 года турмы. У калоніі Казулін трымаў галадоўку, дабіўся, каб яго справа разглядалася ў ААН. За час зняволення Аляксандра памерла яго жонка Ірына. Вызвалены рашэннем Лукашэнкі ў жніўні 2008, прашэнняў не пісаў.

**Аляксандр Мілінкевіч: сядзеў на Акрэсціна**



Лідар Руху «За Свабоду» застаецца ў Беларусі. Яго садзілі на Акрэсціна, але пад крымінальны пераслед ён не папаў. Мілінкевіч працягвае заставацца ў палітыцы, аднак у якасці кандыдата на парламенцкія выбары Ярмошына яго не зарэгістравала.

### 2010.

**Мікола Статкевіч: турма**



Адзіны кандыдат, які па сённяшні працягвае адбываць пакаранне. Статкевіч засведчыў сябе як стойкі і мужны чалавек. У зняволенні ён ужо амаль два гады, прашэнне на імя Лукашэнкі не пісаў.

**Уладзімір Някляеў: збіццё**



Паэта, вылучэнца «Гавары праўду» збілі яшчэ на падыходах да Плошчы. Акрываўлены твар Някляева абляцеў сусветныя навінныя стужкі. У выніку кандыдат прабыў пару месяцаў у «амерыканцы», пасля быў пераведзены на «хатні арышт». Суд пакараў яго «хатняй хіміяй», працягвае займацца палітыкай.

**ЗП**

# Той, хто падвёў Лукашэнку.
## Пяць фактаў пра міністра Алега Качана

28 кастрычніка Аляксандр Лукашэнка адправіў у адстаўку міністра спорту Алега Качана і свайго памочніка па пытаннях спорту і фізічнай культуры Ігара Заічкава.

Прычына — няўдалае выступленне спартсменаў на Алімпіядзе ў Лондане. Лукашэнка не здымаў з сябе віны за «правал» алімпійцаў, але ў адстаўку адправіў іншых. Хаця звальненнем справа можа не скончыцца. Кіраўнік дзяржавы параіў Качану і Заічкаву набываць «наручнікі».

«Раскажыце, Алег Леанідавіч, якія ж прычыны прывялі да такой катастрофы ў ваш перыяд кіравання, — заявіў Лукашэнка, звяртаючыся да міністра спорту Алега Качана. — Усё можаце расказваць: пра асабнякі, якія вы будуеце за кошт спартыўнай галіны, дарэчы, з памочнікам [Заічкаў — «НН»], можа, з адным, з другім віцэ-прэзідэнтам. Усё расказвайце! Нашым людзям цікава будзе паслухаць».

Алімпійская чэмпіёнка Юлія Несцярэнка паскардзілася на абразлівае і зневажальнае стаўленне чыноўнікаў да спартсменаў. Сам Лукашэнка назваў яго «скоцкім».

### 1. Малады і невядомы

Прызначэнне Алега Качана адбылося ў чэрвені 2009. На месца пенсіянера Аляксандра Грыгарава прыйшоў 41-гадовы чыноўнік з Мінаблвыканкама (маладзейшым за яго ў Саўміне быў толькі міністр культуры Павел Латушка).

Качан нарадзіўся ў Чэрвені, працаваў у Лагойскім райвыканкаме. Адтуль яго забралі ў Мінскі аблвыканкам, прызначыўшы на пасаду начальніка спартыўнага ўпраўлення. Гэта быў самы малады міністр спорту і турызму за ўсю гісторыю.

У пазнейшых інтэрв'ю Юры Сівакоў згадваў, што гэта ён прывёў Алега Качана ў структуру Мінспорту. «Падыход Качана выклікае толькі пачуццё раздражнення, абурэння, і крыўды, і нянавісці», — казаў сёлета Сівакоў.

### 2. Ставіў амбіцыйныя задачы

Хаця яны не супадалі з рэальнасцю. Напрыклад, перад адборам чэмпіянату Еўропы-2012 па футболе Алег Качан сказаў, што зборная абавязаная заняць у групе першае ці другое месца. У выніку беларусы апынуліся толькі чацвёртымі, прапусціўшы наперад Францыю, Боснію, Румынію, апярэдзіўшы Албанію і Люксембург.

Значную частку працы Качана займала хакейнае мінскае «Дынама». Міністр прапаноўваў, каб у гэтай камандзе гулялі толькі шасцёра легіянераў. Насамрэч жа сёлета праз каманду ўжо прайшло 16 варагаў. Больш легіянераў няма ў ніводнай камандзе КХЛ.

### 3. Лавіць шайбу зубамі

Качан, як і яго шэф, неаднаразова дазваляў сабе нетактоўныя выказванні на адрас падначаленых. Пасля правальнага леташняга першынства свету па хакеі міністр параіў нашаму галкіперу Андрэю Мезіну лавіць шайбу зубамі, а абаронцам і нападаючым выходзіць на лёд з паламанымі рукамі і нагамі. Мудрыя прапановы, нічога не скажаш.

Вядомы хакейны варатар Сяргей Шабанаў на гэта прапанаваў адсякаць спартоўцам галовы за няўдалыя старты.

«Мне ўсё роўна, хруснула ці не хруснула спіна, павінен быў штурхаць», — казаў Качан па выніках Алімпіяды.



Алег Качан рызыкуе трапіць на нары.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### 4. Дзіўныя прапановы па турызме

Качан быў міністрам не толькі спорту, але і турызму. І тут ягоныя ініцыятывы часам выклікалі абсалютнае неўразуменне. Напрыклад, вясной, калі паміж афіцыйнымі Мінскам і Брусэлем адбыўся дыпламатычны канфлікт, міністр сказаў наступнае: «Можа, мы станем нават больш прывабнымі ў плане турызму пасля ад'езду паслоў». Нібыта ў КНДР, дзе няма паслоў ЕС, турызм квітнее.

«Гатэль у 200 долараў за ноч — гэта зусім не дорага», — упэўнены Алег Качан. Цікава, што сказана гэта было адразу пасля леташняй дэвальвацыі, калі даходы большасці беларусаў упалі якраз да гэтых 200 долараў.

### 5. З думкамі пра прэзідэнта

Што б ні рабіў, ці ні казаў Алег Качан, гэта адбывалася з думкамі пра кіраўніка дзяржавы. «Зборную павінен трэніраваць чалавек, які зможа вывесці на вынікі, чаканыя прэзідэнтам», — сказаў Качан пасля адстаўкі Бернда Штанге з пасады галоўнага трэнера футбольнай зборнай. Заўзятары ў гэтым пытанні не такія важныя, галоўнае, каб прэзідэнту спадабалася.

«Задачы паставіў перад намі прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта, кіраўнік нашай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка. Мы выдатна разумеем, што павінны прыкласці максімум намаганняў, каб іх выканаць», — казаў Качан перад Алімпіядай.

Лукашэнка тады загадаў заваяваць 25 медалёў, 5 з якіх залатыя. У выніку абмежаваліся толькі 12. «Мы падманулі прэзідэнта. І яму абяцаў медалі, асабіста», — калі падмануў, то адстаўка Качана не павінна здзівіць.

**Зміцер Панкавец**

# Цэнтральная Украіна ўпершыню прагаласавала за нацыяналістаў

«Спім у памяшканні акруговай камісіі, каб не сфальсіфікавалі вынікаў, — напісаў «Нашай Ніве» наш кіеўскі аўтар, студэнт Васіль Бабіч. — Пакуль кандыдат ад апазіцыі набірае на 80 галасоў больш, чым мільянерша, якая яму супрацьстаіць».

Кандыдат ад апазіцыі ў гэтай акрузе — сын вядомага кінарэжысёра Ільенкі. А мільянерша — уласніца сеткі будаўнічых гіпермаркетаў Герэга. Яна ж — сакратарка Кіеўскага гарсавета. Яна балатуецца як незалежная кандыдатка, але ў палітычных колах ведаюць: такія «незалежныя мільянеры» ў Вярхоўнай Радзе дысцыплінавана галасуюць за Партыю рэгіёнаў Януковіча. Яе называюць часам «партыяй алігархаў».

**Вынікі выбараў ва Украіне**

Партыя рэгіёнаў — 30%

«Бацькаўшчына» (кааліцыя Юліі Цімашэнкі) — 25%

«Удар» баксёра Клічко — 14%

Кампартыя — 13%

Праванацыяналістычная «Свабода» — 10%

Па партыйных спісах «Рэгіёны» ў Кіеве атрымалі ўсяго 10 працэнтаў. А вось у мажарытарных акругах яны разлічваюць на перамогу. Там вырашаюць ужо не брэнды і не ідэі, а грошы. Галасуюць за тых, хто прыносіць бюджэтныя датацыі, а то і банальна раздае грэчку.

Ільенка і Герэга ідуць нос у нос, маюць каля 30 працэнтаў. Таму на кожным участку галасы старанна лічаць і пералічваюць. Украіна — не Беларусь. Тут экзітполы можа праводзіць любая сацыялагічная служба, назіральнікі літаральна вісяць над камісіямі, самі камісіі — усе да адной — складаюцца з прадстаўнікоў ад розных палітычных сілаў, а апазіцыя вядзе законны паралельны падлік галасоў. Таму фальсіфікацыямі можна «нацягнуць» аднаму з кандыдатаў некалькі працэнтаў, не больш. Але ў сітуацыі як у Ільенкі з Герэгай тая пара працэнтаў можа быць вырашальнай. Вось прыхільнікі Ільенкі і пільнуюць кожную працэдуру: нават увод дадзеных у камп'ютары акруговай камісіі.

Поспех Ільенкі — гэта знак часу. Ён кандыдат ад нацыяналістычнай партыі «Свабода». Блок Юліі Цімашэнкі пакінуў гэтую акругу сваім партнёрам па кааліцыі.




Лозунг лідара нацыяналістаў, доктара Цягнібока, просты.

«Свабода» — крайне правая партыя, нашмат радыкальнейшая за колішні Народны Рух ці Юшчанку. «Свабода» зрабіла сапраўдны прарыў: яна правядзе ў Раду каля 35 дэпутатаў. Прычым у Кіеве яна выйшла на трэцяе месца з 17% галасоў. Упершыню за нацыяналістаў галасавала не толькі Заходняя, але і Цэнтральная Украіна. Лозунг лідара «Свабоды», доктара Цягнібока, просты: «Свая ўлада».

Агулам тры апазіцыйныя партыі атрымалі 49% галасоў, а Партыя рэгіёнаў і камуністы — толькі 44%. Прэзідэнцкія выбары ва Украіне адбудуцца ў 2015.

**Мікола Бугай**

## Сцісла

**Макей выказаўся пра Абхазію і Асецію**

«Не магу сказаць, што наша пазіцыя памянялася, але жыццё не стаіць на месцы, будзем аналізаваць сітуацыю і прымаць рашэнне зыходзячы з нашых нацыянальных інтарэсаў», — сказаў міністр замежных справаў Уладзімір Макей падчас сустрэчы з расійскім калегам Сяргеем Лаўровым.

**Павел Лёгкі стаў дарадцам пасольства Беларусі ў Расіі**

Ён узначальвае прэс-службу Лукашэнкі ад 2003. Новы прэс-сакратар кіраўніка дзяржавы пакуль не прызначаны.

**Вярнуўся Карпянкоў**

Былы камандзір «Алмаза», пры якім збілі Някляева, узначаліў упраўленне барацьбы з наркотыкамі. Раней Карпянкоў камандаваў спецпадраздзяленнем «Алмаз», адкуль быў звольнены пасля Плошчы.

**Генерал КДБ Кузняцоў жывы**

«Хартыя-97» са спасылкай на сваю крыніцу паведаміла, што кіраўнік Інстытута нацыянальнай бяспекі Ігар Кузняцоў застрэліўся. У Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ заявілі, што «гэта выдумка і гнюсная хлусня».

**ЗП, СМ**

# Гаруны: рынак з мінулага стагоддзя пад Вільняй

**Пад Вільняй у паўтара разу танней, чым на Ждановічах.**

Найбуйнейшы рэчавы рынак Прыбалтыкі, Гаруны (па-літоўску Гарунай), што пад Вільняй, прачынаецца з першымі промнямі сонца. Штодзень, апроч панядзелка, тут ад досвітку пачынаюць працу тысячы прадаўцоў. На наступны дзень іх тавар з'явіцца на прылаўках крамаў іншых літоўскіх прадпрымальнікаў. Зрэшты, купцоў шмат і з-за мяжы. Аўто з беларускімі, латвійскімі ці нават эстонскімі нумарамі — не рэдкасць. Шоп-туры прыязджаюць нават са Скандынавіі. Ці акупляе сябе паездка ў Гарунай?

### Крама на колах

Ужо а 6-й раніцы складана знайсці свабоднае месца на паркоўцы. Аб'язджаю рынак з адваротнага боку, тут вольных месцаў больш. Але трэба быць асцярожным, каб не заняць «чужое» месца. «Вы будзеце тут гандляваць?» — адразу падыходзіць да мяне жанчына. «Не...» — «Тады ад'едзьце назад, каб быў падыход да нашай машыны, я буду тут тавар раскладваць». Яна з мужам прыехала з Алітуса, што за 100 км ад Вільні. Столькі ж ехаць ад яе дома да Польшчы. Стары «Фальксваген» даверху забіты пральнымі парашкамі. Напрыклад, 4,8-кілаграмовы «Персіл» можна набыць за 100 тысяч рублёў — знайдзіце такія цэны ў Беларусі. Яшчэ некалькі гадзінаў таму прадаўцы закупляліся ім у польскіх супермаркетах на мяжы, а цяпер перапрадаюць тавар з невялікай накруткай. Выходзіць усё адно танней, чым у віленскіх гіпермаркетах.

На стаянцы штодня сотні прадаўцоў вядуць гандаль проста з багажнікаў машын: нехта прадае канцылярскія тавары, нехта — гарбату і каву. У Беларусі такіх імправізаваных рынкаў, бадай, не засталося. А вось у Гарунах такая форма гандлю цалкам законная.

### Кітай ці Польшча?

Чаго на рынку мала, дык гэта заатавараў, а таксама свежай садавіны і гародніны. Прадаўцы раяць звяртацца на іншы віленскі кірмаш, Кальварыйскі.

Затое ў Гарунах шмат адзення. Беларус, які прывык закупляцца на мінскіх Ждановічах, будзе ў захапленні. Асартымент пад Вільняй такі самы ці нават большы, затое цэны нашмат меншыя. Розніца нават у два разы! Напрыклад, мужчынская зімовая куртка каштуе 300—500 тысяч рублёў. Можна яшчэ і патаргавацца...

На суседнім прылаўку раскладзеныя акуратна пашытыя красоўкі. «Колькі каштуюць?» — «50 літаў». Гэта каля 150 тысяч рублёў. «Не парвуцца пасля першай прабежкі?» — «Ты што, гэта ж фірмовае, з-пад Варшавы». У адрозненне ад Ждановічаў, на Гарунах прадаецца больш польскага адзення і абутку. Ці лічыць яго больш якасным у параўнанні з кітайскімі ці турэцкімі аналагамі? Раз на раз не прыпадае, прызнаюцца прадаўцы, але раяць купляць менавіта польскае. «А не спрабавалі беларускае адзенне ў сябе на кропцы прадаваць?» Гандляры глядзяць вырачанымі вачыма, нібыта на вар'ята.



Пара абменнікаў і кіёскі з шаурмой.

**Што скупляюць беларусы?**

Упакоўка молатай кавы — 28 000 рублёў за 0,5 кг.

Пральны парашок Percil — 100 000 за 4,8 кг.

Туалетная папера — 25 000 рублёў за 16 двухслойных рулонаў.

Кітайскія джынсы — ад 65 000 рублёў.

Кітайская танная тэхніка (прасы/фены і г.д) — ад 40 000 рублёў за штуку.

### Эвалюцыя рынку

Як і ў Беларусі, гарадскія ўлады і гаспадары рынку спрабуюць зрабіць гандаль «больш цывілізаваным». Іншымі словамі, перацягнуць прадаўцоў з намётаў пад дах. За месца ў ангарах можна браць большую арэндную плату.

Спачатку гаспадары Гаруноў збудавалі чатыры вялікія «тэматычныя» ангары. Напрыклад, у адным з іх прадаюцца аўтамабільныя тавары, у другім садовая тэхніка.

Праўда, даверу да такіх збудаванняў у прадаўцоў няма. Год таму адзін такі ангар цалкам згарэў, разам з усім пакінутым на ноч таварам. Прадпрымальнікам давялося пачынаць свой бізнэс з нуля.

Цяпер патроху запаўняецца прадаўцамі яшчэ большае памяшканне, гіганцкі трохпавярховы комплекс. Ён нагадвае мінскі «Імпульс» каля Камароўскага рынку. Ужо цяпер праштурхнуцца ў праходах між шклянымі павільёнамі складана, а свабоднай стаіць яшчэ з палову будынка.

### Беларусы скупляюць гуму

Праз дарогу ад рэчавага кірмашу знаходзіцца вялікі аўтарынак. З увядзеннем вялікіх мытаў на увоз машын у Беларусь перагоншчыкі саступілі месца прадаўцам запчастак, расходнікаў і аксесуараў. Ехаць спецыяльна для таго, каб набыць масла ці фільтры, немэтазгодна. Напрыклад, эканомія на куплі пяцілітровай упакоўкі маторнага масла Elf склала ўсяго 20 тысяч рублёў, на масляным фільтры — каля 10 тысяч.

Але па б/у запчасткі ці гуму заехаць у Гаруны варта. Камплект з чатырох б/у-колаў памеру R15 вядомага еўрапейскага брэнда можа абысціся ў $100. Але найбольшая эканомія дасягаецца пры куплі новай гумы вялікага памеру. У параўнанні з мінскімі цэнамі на кожным коле можна ашчадзіць да $50. На месцы працуе і шынамантаж, каб хуценька перакінуць гуму.

### Недапрацаваны сэрвіс

Чаго Гарунам не стае, дык гэта дадатковага сэрвісу. Калі хочацца пад'есці, дык толькі стоячы, а ў меню — хот-дог і шаурма. Паклапаціцеся загадзя і пра патрэбную валюту. Банкамат на шляху мне сустрэўся толькі адзін, абменнікаў больш, але курс на іх нявыгадны. Зрэшты, пры вялікай куплі можна ўгаварыць прадаўца прыняць еўра ці, у крайнім выпадку, даляры. А вось на чэкі ці выпісаныя квітанцыі для атрымання TaxFree лепш не спадзявацца. Да таго ўзроўню развіцця рынак у Гарунах яшчэ не дайшоў.

**Ягор Марціновіч, Вільня — Мінск**


**Шэрагі самага цывілізаванага ангара Гаруноў.**

**Даведка. Рынак Гарунай**

**Час працы:** 6.00—14.00 (апроч панядзелка).

**Адрас:** Вільня, вул.Гаруну, 68.

**Шлях з Беларусі:** ад пераходу «Каменны Лог» ехаць проста, нікуды не зварочваць, аж да самога рынку.

## Колькі зарабляюць суседзі?

**Белстат ужо падлічыў, колькі зараблялі беларусы ў верасні. Астатнія статслужбы працуюць не так хутка, таму дадзеныя ў суседніх краінах прадстаўленыя за ліпень-жнівень. У верасні яны маглі крыху павялічыцца.**




## Сцісла

**Расія прапануе Беларусі вярнуць $1,5 мільярда мытаў**

Тэму экспарту растваральнікаў працягваюць абмяркоўваць у Маскве і Мінску. Беларусі прапанавана добраахвотна кампенсаваць расійскаму бюджэту панесеныя страты. У залежнасці ад выніку перамоваў будуць вызначацца аб'ёмы паставак нафты налета.

**«Сацыяльныя» прадукты падаражэлі**

Міністэрства эканомікі дазволіла істотна ўзняць цэны на малако, кефір, смятану і тварог нізкай тлустасці. Цэннікі могуць вырасці ажно на 35%, але гэта закране «сацыяльныя» прадукты, якія і так было цяжка знайсці ў крамах.

**Да дэвальвацыі гатовыя**

За верасень беларусы знялі рублёвых укладаў на 3 трыльёны. Затое ў той жа час валютныя дэпазіты павялічыліся на $223 мільёны.

**Немцы перадумалі будаваць ветрапарк у Волме**

Фірма Enertrag ужо ўклала ў праект 300 тысяч еўра. Агульны кошт праекта па будаўніцтву прамысловага ветрапарку складаў бы каля 360 мільёнаў еўра. Немцы наракаюць на тое, што Міністэрства абароны Беларусі адмовілася ўзгадняць рэалізацыю праекта ў Дзяржынскім раёне. Ветракі маглі парушыць працу радараў сістэмаў СПА.

**Пенсіі вырастуць з лістапада**

Рост складзе 14,7%. У выніку сярэдні памер пенсій павялічыцца амаль да 2 мільёнаў рублёў. Міністэрства працы і сацыяльнай абароны тым часам прапануе павялічыць узрост выхаду на пенсію беларусаў.

**ЯМ**

# Кляшторная: «Спыніць «Бульбашъ-хол» у Курапатах можа толькі прэзідэнт»

**Прамаргалі.** Так можна адным словам ахарактарызаваць сітуацыю з будаўніцтвам рэстарана ў Курапатах.

Цяпер сабралі 3500 подпісаў пратэсту, але як змяніць прызначэнне напалову гатовага аб'екта? Актывісты прапануюць выдзеліць рэстаратарам зямлю трохі воддаль, а гатовыя будынкі выкарыстаць пад музей мемарыяла.

Вынік таго, што ўлады не раяцца з творчымі саюзамі, гістарычнымі таварыствамі па гэтых пытаннях. Вынік правалу ў гістарычнай адукацыі, спробаў перапісаць гісторыю: ані чыноўнікі ў выканкамах, ані прадпрымальнікі, відаць, не разумелі, у якім месцы збіраюцца будаваць забаўляльны цэнтр з лазняй, ды яшчэ пад крыклівай назвай «Бульбашъхол». Не разумелі, бо пра месца пахавання дзясяткаў тысяч нявінна забітых людзей — міністраў, акадэмікаў, пісьменнікаў, сялян — маўчаць афіцыйныя СМІ, маўчаць падручнікі гісторыі. Але ўнукі і праўнукі забітых ведаюць: яны там. Цяпер людзі абураныя, ускладаюць віну на каго ж — на ўлады,

**3500 подпісаў супраць**

Пад зваротам да старшыні Мінскага аблвыканкама Барыса Батуры, міністра культуры Паўла Латушкі і генпракурора Аляксандра Канюка з заклікам спыніць будаўніцтва «Бульбаш-Хола» па стане на аўторак падпісалася амаль 3500 чалавек.

**«Наша рэстаранная група» хаваецца, але рэагуе**

Кампанія, якая будуе рэстаран, прыняла з лагатыпа комплексу надпіс «Бульбашъ-Холл». А побач з будоўляй з'явіўся білборд з рэкламай іншай кавярні — «Дача», якая размяшчаецца далёка ад Курапатаў, на Лагойскім тракце. Каментароў у кампаніі не даюць, спасылаюцца на раз'езды кіраўніцтва.

У пашпарце аб'екта заказчыкам пазначаная кампанія «БелРэстІнвест». Там таксама адмовіліся размаўляць наконт будоўлі.

вядома. Як на ўлады ўскладалі віну ў 2001 за спробу пракласці па магілах мінскую кальцавую.

Старшыня Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Зянон Пазняк, які менавіта і адкрыў Курапаты, у інтэрв'ю «Еўрарадыё» назваў будаўніцтва «Бульбашъхола» «чарговым праяўленнем ксенафобіі і нацыянальнай нянавісці на бытавым узроўні».

Прадстаўнік міжнароднай арганізацыі «Мемарыял» у Беларусі Ігар Кузняцоў абураны. Ён мяркуе, што пры выдзяленні зямлі пад комплекс былі парушаны межы ахоўнай зоны вакол Курапат.

Археолаг Мікола Крывальцэвіч заклікае байкатаваць дадзены рэстаранны комплекс.

У 2001 пасля ўпартага супрацьстаяння — моладзь на часе з маладым Севярынцам нават начавала ў намётах — сітуацыя з МКАД вырашылася дастойна. Некропаль не парушылі, зрабілі прыгожыя падыходы.



Ад урочышча Курапаты да «Бульбашъ-Хола» некалькі дзясяткаў метраў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Мая Кляшторная прыйшла на Дзяды ў Курапаты.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

З «Бульбашъ-холам» стан справаў іншы. У выпадку з МКАД падрадчыкам работ была дзяржава. Цяпер забудоўвае прыватная кампанія. Яе кіраўніцтва яўна адчувае няёмкасць, бо адгарадзілася ад журналістаў: каментароў не дае. У прыватных гаворках супрацоўнікі кампаніі «Наша рэстаранная група» прызнаюць: сорамна, ганебна.

Антон Астаповіч, старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, кажа, калі ахоўная зона вакол урочышча не парушаецца, то фармальна «Бульбашъ-Хол» нічога не парушыў. Але маральны бок праблемы застаецца.

Грамадская кампанія «Гавары праўду» звярнулася ў Мінаблвыканкам з ініцыятывай тэрмінова ўступіць у перамовы з прадстаўнікамі арганізацыі, якой выдзелена зямля пад будаўніцтва рэстарана. Актывісты прапаноўваюць выдзеліць кампаніі новы ўчастак у іншым месцы, а за ўзведзеныя пабудовы выплаціць кампенсацыю. І стварыць у іх музей мемарыяла.

У навуковай кіраўніцы мемарыяльнага комплексу «Курапаты», архітэктаркі Маі Кляшторнай у Курапатах ляжыць родны тата. Паэт Тодар Кляшторны быў адным з тых тысяч прадстаўнікоў нацыянальнай эліты, якіх Сталін адправіў на смерць. За апошні год 75-гадовая спн.Кляшторная моцна пастарэла і зусім сагнулася. Ужо 20 гадоў яна бярэ ўдзел у шэсцях на Дзяды, такая жывая сведка гісторыі. Пасля расстрэлу таты яе немаўлём, разам з мамай, адправілі ў лагер. А старэйшых сясцёр забралі ў мамы, выслалі ў дзэтдом.

У мінулую нядзелю Мая Кляшторная, як і штогод, прыйшла на шэсце на Дзяды з букетам аранжавых ліхтарыкаў.

Яна расказвае, што два месяцы таму да яе, як да навуковага кіраўніка, мемарыяльнай зоны «Курапаты» прыходзілі прадстаўнікі інвестара рэстараннага комплексу. «Яны хацелі, каб я паставіла свой подпіс на іх праекце — дала згоду на будаўніцтва іх аб'екта ў ахоўнай зоне. Я нічога не падпісала, а вось Міністэрства культуры ім дало дазвол! — абураецца яна. — Яны мне паўтаралі: «А хто ведае пра вашы Курапаты? Ніхто не ведае!»

75-гадовая жанчына расказвае, што, як прачытала, які ж аб'ект збіраюцца адчыняць каля пахаванняў, дык захварэла — адняліся ногі... Мая Кляшторная ўпэўнена, што ў сітуацыі, якая склалася, ёсць толькі адно выйсце. «Спыніць будаўніцтва «Бульбашъ-хола» можа толькі прэзідэнт», — сказала Кляшторная «Нашай Ніве».

**Сяргей Макарэвіч, Ганна Журавіна**

**Паслы ЕС наведалі Курапаты і Трасцянец**

30 кастрычніка кіраўнікі дыпламатычных місій краін Еўрасаюза разам з паслом Ізраіля і часовым паверaным у справах ЗША наведалі Курапаты і Трасцянец, два месцы масавага забойства і пахавання ахвяраў чумы таталітарызму.

У Курапатах дыпламаты ўсклалі кветкі ля мемарыяльных знакаў, у тым ліку ля Крыжа памяці і на пагорку каля валуна, якім пазначана месца, абранае ўрадам Беларусі для ўзвядзення мемарыяла.

**Фотафакт**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Былы палітвязень Сяргей Каваленка павёў за сабой шэсце на Дзяды. Людзей было менш, чым мінулыя гады — каля 400 чалавек. Ісці было цяжка, бо за дзень да таго выпаў снег і пад нагамі ўтварылася халепа. Прыйшлі: археолаг Эдвард Зайкоўскі, рэжысёр Валеры Мазынскі, былыя кандыдаты ў прэзідэнты Рыгор Кастусёў і Віталь Рымашэўскі, старшыня ТБМ Алег Трусаў, перакладчык і педагог Лявон Баршчэўскі, пісьменніца Наталка Бабіна, палітвязень Алесь Кіркевіч з Гродна, скульптар Гэнік Лойка, шоумэн Усевалад Сцебурака, паэт Славамір Адамовіч. 4 лістапада адбудзецца акцыя ўшанавання памяці расстраляных у Лошыцы. Маршрут традыцыйны: шэсце ад Палаца культуры камвольнага камбіната па вуліцы Маякоўскага да Лошыцкага яра.**

# Хто ў Беларусі лідар?

## Міні-апытанне моладзі

Перамагаюць Скарына, Колас і Купала.

Гэтае апытанне на гучнае званне сацыялагічнага даследавання не прэтэндуе. Аднак зразумець, што творыцца ў галовах сённяшняй моладзі, дапамагае.

Удзельнікам летніка, які прайшоў сёлета на Вілейшчыне, прапанавалі скласці асабістыя рэйтынгі лідараў сусветнай і беларускай гісторыі. Апытаным — па 16–19 гадоў. Іх 17 чалавек.

Гэта старшакласнікі, навучэнцы каледжаў, першых курсаў ВНУ (у асноўным — Баранавіцкага дзяржуніверсітэта). Яны з'ехаліся ў летнік з Гомеля, Баранавіч, Барысава, Жодзіна, Пінска.

**Сяргей Мікулевіч**

**Першая дзясятка месцаў (у дужках пазначаная колькасць згадак у анкетах)**

1. Францыск Скарына (14)
2. Якуб Колас (13)
3. Янка Купала, Уладзімір Ленін (12)
4. Напалеон Банапарт, Адольф Гітлер (11)
5. Іосіф Сталін (10)
6. Аляксандр Пушкін (9)
7. Еўфрасіння Полацкая, Пётр І (8)
8. Вітаўт (6)
9. Джордж Вашынгтон, Пётр Куп-рыянаў, Уінстан Чэрчыль, Джон Кензэдзі, Аляксандр Лукашэнка (5)
10. Кандрат Крапіва, Кастусь Каліноўскі, Максім Багдановіч, Вольфганг Амадэй Моцарт, Жанна д'Арк, Кацярына ІІ, Аляксандр Македонскі (4).



Мазаіка ў Брэсце аўтарства Аляксандра Кішчанкі.

## Фанаты мінскага «Дынама» жорстка пра міліцыю

Падчас гульні чэмпіяната Беларусі паміж «Дынама» і мазырскай «Славіяй» былі разгорнуты расейскамоўны банер «Фанаты гаспадары стадыёнаў».

Пры гэтым былі вылучаны чатыры літары «АСАВ». Гэта ўніверсальная абрэвіятура, якую выкарыстоўваюць фанаты ў многіх краінах. Калі перакладаць яе, то атрымліваецца: «Усе мянты вырадкі».

Звычайна міліцыя скрупулёзна праглядае ўсе банеры і сцягі фанатаў, але тут прагледзелі. Ці фанаты праявілі кемлівасць, каб пранесці крамольную расцяжку.

У папярэднім туры фаны мінскай каманды ўвогуле пакінулі стадыён яшчэ падчас гульні. Іх абурае празмерная жорсткасць спецназа.

**ЗП**




## Пенсіянеры — апора дзяржавы?

Перавезці ляжачага інваліда — гэта праблема.

На апошняй прэс-канферэнцыі галоўнага чыноўніка нашай дзяржавы мы пачулі, якія выдатныя ў нас дамы састарэлых сталі, дзякуючы яму, як там добра старым, што яны самі просяць аддаваць за гэта 100% пенсіі, але шчодрая дзяржава 20% пакідае ім.

А ўсё ж, як ні круці, шчаслівы той стары, які дажывае свае гады дома, з роднымі людзьмі. Бо ніякая сацработніца не заменіць усмешкі ад роднага чалавека. Старэйшыне нашай сям'і, прабабулі, 96 гадоў, і трэці год яна ляжыць, пасля таго як зламала сцягно.

Штогод дачка з мужам, самі ўжо 75-гадовыя, на лета перавозяць прабабу ў родную хату пад Брэстам. А на зіму назад у горад: печ не натопішся, хата старая, халодная.

Дзяржаву не абцяжарваюць, манны з неба не просяць. Баба атрымлівае сваю інвалідскую пенсію, дачка з зяцем — свае. Яны ў свае 75, маючы бабу, якая патрабуе дагляду кожныя пару гадзін, кормяць не толькі сябе, але яшчэ і ўнукаў. Садзяць 20 сотак агарода, маюць там усё і нават з пенсіі грошы адкладаюць.

Гэтыя людзі заслугоўваюць ад дзяржавы ўдзячнасці: яны ні ў кога не сядзяць на шыі, нічога не просяць. Ані тэхнікі на апрацоўку зямлі, ані капейкі на памперсы для ляжачай. Нават лекі для бабы купляюць па поўнай цане: доктар выпісаў беларускія сродкі бясплатна, але ад іх слабеў жывот, дык купілі імпартныя. Эфектыўныя аказаліся, дапамаглі. Але гаворка не пра гэта.

Адзінае, што гэтыя сумленныя людзі не могуць самі зрабіць — гэта перавезці старую з вёскі ў горад і назад. Два разы на год — а ў асабісты аўтамабіль ляжачую не засунеш. І вось аказваецца, што ў нас няма ніякага спосабу для перавозкі. Раней была такая платная паслуга ў «хуткай дапамозе». Але адмянілі. І перавозіць інваліда «хуткая» не павінна. Нават, можна сказаць, не мае права і магчымасці: па шашцы можа атрымаць, калі паедзе.

Цяпер за гэта адказвае сацыяльная служба, яны маюць спецыяльны бусік. Але... Бусік з насілкамі-перавозкай у іх быў падораны «варожаскай», як выражаецца галоўны чыноўнік, краінай Германіяй. І ён паламаўся. І калі аднойчы таго нашым людзям не сказалі, то прыйшлося 96-гадовую старую выносіць з хаты на коўдры і везці на падлозе, падклаўшы матрац... Бо не адкладзеш жа пераезд: унукі ж аж з Мінска дабраліся, каб вынесці, занесці.

І вось два разы на год даводзіцца дамаўляцца, шукаць, даваць у кішэню ў адной ці другой арганізацыі. Год назад, калі нідзе дамовіцца не ўдалося, зяць у адчаі пазваніў аж у прыёмную Сумару, кіраўніку аблвыканкама. Ну што гэта такое: інваліда няма як перавезці з месца на месца? Праз паўгадзіны з «хуткай» патэлефанавалі: куды прыехаць? Дык, аказваецца, ёсць правы і магчымасць, калі ёсць загад. Але ці ж прыёмнай аблвыканкама траціць на такое час і нервы, ці так павінен дзейнічаць дзяржаўны механізм?

Галоўнае, што гэтыя мае сваякі былі б радыя, каб была такая ПЛАТНАЯ паслуга. Яны не просяць задарма, яны просяць, каб можна было за грошы, але нармальным спосабам арганізаваць.

Вось і ўсё, што ім пакуль трэба ад дзяржавы. Можа быць, пасля публікацыі ў «варожаскай» газеце ўлады ўвядуць адпаведную паслугу або ўрэшце параманцуюць машыну-перавозку сацыяльнай службы?

**Мікола Бугай**

## Не навучыцца, пакуль не намучыцца

У Глускім раёне школьнікі перабіраюць бульбу. Са згоды бацькоў.

Некалькі папулярных сайтаў на мінулым тыдні напісалі, што школьнікі ў Глускім раёне вось ужо тры тыдні не ходзяць на заняткі, замест гэтага дапамагаюць сельскім гаспадаркам. Раённая газета піша, што без іх дапамогі мясцоваму СВК не справіцца.



PVZ.BY

«Вось ужо больш за два тыдні ў СВК «Дружба» на пераборцы бульбы новага ўраджаю занятыя навучэнцы падшэфных Глускай СШ № 2 і гімназіі. Без іх дапамогі гаспадарцы не справіцца з такім вялікім аб'ёмам работ», — пісала глуская раённая газета «Радзіма» ў другой палове кастрычніка.

«Практычна ўсім папрацаваць у радасць — і час весела праходзіць, і да працы прывучаюцца, а яшчэ на зіму для школы бульбы заробім», — цытавала выданне аднаго з настаўнікаў, што быў са школьнікамі на працы.

Як паведамілі карэспандэнту «НН» у глускай гімназіі, на сельгаспрацах задзейнічаныя толькі тыя вучні, якім споўнілася 14 гадоў і чые бацькі далі на гэта пісьмовую згоду. На навучальны працэс праца не ўплывае, бо вучні ездзяць у вёску па чарзе і ўсяго на некалькі разоў.

«Бульбу скончылі перабіраць, цяпер дапамагаем мясцоваму фермеру на ўборцы гародніны», — патлумачылі ў гімназіі. І дадалі, што дзякуючы сельгаспрацам удалося назапасіць на зіму 6 т бульбы, па 600 кг сталовых буракоў і морквы і 800 кг капусты. А гэта істотная эканомія грошай для гімназіі.

Падобная сітуацыя, па інфармацыі Рэдакцыі, назіраецца ў адной са школ Мядзельшчыны. Беларуская мудрасць кажа: «На тое і навука, каб была мука».

**Сямён Печанко**

**Фотафакт**



Беспрытульныя каты ў маразы грэюцца на каналізацыйных люках

# Гімнастка Тур зламала шыю праз два дні пасля вяселля

Муж: Я веру, яна зноў **выйдзе на арэну**.



26-гадовая беларуская цыркавая гімнастка Таццяна Тур атрымала сур'ёзную траўму на трэніроўцы ў Маскоўскім цэнтры цыркавога мастацтва. Яна там працуе эквілібрысткай.

Бяда здарылася 23 кастрычніка. Вынікам няўдачнага прызямлення на галаву стала змяшчэнне шыйнага пазванка, пасля чаго гімнастку шпіталізавалі ў рэанімацыю.

Аперацыя прайшла паспяхова, Тацціяна ў прытомнасці і можа варушыць нагамі. Тацціяна зможа вярнуцца да працы. Ёй паставілі імплантат.

За два дні да трагедыі Тацціяна ўзяла шлюб.

Сяргей Яцкі — муж і партнёр Тані па манежы. Ён першым даведаўся пра інцыдэнт і ўвесь час знаходзіўся побач з жонкай. Муж верыць, што Таня зноў выйдзе на арэну, калі толькі захоча.

Як высветлілася, Тацціяна Тур нарадзілася ў Гродне. З пяці год яна пачала займацца гімнастыкай у знакамітай гродзенскай школе, якая дала спорту Вольгу Корбут. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверстэт па спецыялізацыі «фізічнае і спартыўнае выхаванне». У 2007 годзе майстар спорту Тур пачала працаваць у Цырку Юрыя Нікуліна.

Выступала ў Канадзе, ЗША, Італіі і іншых краінах.

Нягледзячы на юны век, артыстка ўжо сама выкладала асновы цыркавога мастацтва. Сярод яе каронных нумароў — паветраныя палотны, кольцы, праца ў акрабатычнай пары.

**Вольга Гарапучык**

**Фотафакт**



ДЗЯНІС РАМАНЮК

**Маладафронтавец Мікола Дземідзенка пабраўся шлюбам з прыгажуняй-мастацтвазнаўцай Алесяй Раманюк. Алеся — дачка вядомага творцы, збіральніка мастацтва, этнографа Міхася Раманюка. Вянчанне маладых адбылося па ўніяцкім абрадзе ў Мёрах, адкуль родам Мікола Дземідзенка.**

# Беларус Алег Навіцкі паляцеў у космас

Ён таксама **ваяваў у Чачні.**

Алегу Навіцкаму 40 гадоў. Ён ачоліў экіпаж, які будзе каля 4 месяцаў працаваць на Міжнароднай касмічнай станцыі (дагэтуль беларусы там не кіравалі). У экіпажы таксама расеец Яўген Тарэлкін і амерыканец Кевін Форд.

Навіцкі нарадзіўся ў Чэрвені. Ён вучыўся ў Расіі, у 2006 годзе скончыў Вайскова-паветраную акадэмію імя Гагарына. Да ўключэння ў атрад касманаўтаў Навіцкі каля 9 гадоў служыў у расійскіх ВПС, ваяваў у Чачні.

Вядома, што Алег Навіцкі вельмі любіць беларускія песні, спявае іх разам са сваімі расійскімі калегамі.

Да гэтага ў космасе былі ўсяго два беларусы — Пятро Клімук і Уладзімір Кавалёнак.

**ЛМ**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Крыжовы шлях

Аднойчы ў мяне спыталі, ці быў у жыцці момант, калі давялося рабіць выбар паміж «чэснай» і «нячэснай» журналістыкай. Усведамляючы ўсю ўмоўнасць і агіднасць гэтага падзелу, я адказаў, што такога моманту не было.

Насамрэч такі момант быў — 30 кастрычніка 1988, Дзяды, Курапаты...

Гэта быў момант пераадолення страху.

Я не збіраюся яшчэ раз апісваць падрабязнасці таго дня і тых падзей — успамінаў пра іх дастаткова. Часцей за ўсё згадваюцца жорсткія эпізоды — як хапалі, збівалі, атручвалі газам, цягнулі ў аўтазакі...

Праабраз будучага хапуна выяўляе сябе ў гэтых успамінах ва ўсім сваім мярзотным аблічча.

Але адказу на пытанне, чаму зарос крыжовы шлях у Курапаты, няма. Не зарос?

Тады чаму такі запозненны супраціў ганебнай будоўлі ля Курапат забаўляльнага цэнтра як быццам знарок прымеркаваны да Дзядоў і традыцыйнага шэсця?!

Чаму грамадскасць у момант узбуджаецца, калі нешта датычыцца яе непасрэдных інтарэсаў, накшталт ушчыльняльных збудаванняў, але моўчкі і абыякава назірае за тым, як ганьбіцца памяць аб ахвярах сталінізму, то бок памяць аб продках?!

Дзе ён, адказ на пытанне, чаму стаўся адарваным ад грамадскай свядомасці аднойчы выверджаны боль?

Я яшчэ раз прачытаў артыкул Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты —дарога смерці», ад якой пачаўся крыжовы шлях: «Ачышчэнне сумлення неабходна грамадству, якое дапусціла і спарадзіла генацыд... Раскайвацца павінны наступныя пакаленні, якія не бачылі той бяды, раскайвацца за грахі продкаў. Маральныя пакуты павінны браць на сябе нашчадкі...»

Дык, можа, народ спужаўся пакаяння? Спужаўся цяжару маральных пакут?

Але ж ён быў, быў бясстрашны народ супраць азвярэлай улады.

І не толькі 30-га кастрычніка.

Артыкул быў надрукаваны 3 чэрвеня, а ўжо 19-га народ пайшоў у Курапаты...

Натоўпамі і па адным, асфальтам кальцавой дарогі і сцежкамі, пратаптанымі ад горада наўпрост, сцякаліся менчукі, старыя і маладыя, у курапацкі лес, які да таго часу быў месцам аўтамабільных спатканняў ды шумных шашлычна-піўных гульбішч. Па абочынах шашы ўроскід стаялі службовыя «Волгі», «уазікі» з міліцыянцкімі нумарамі, у радок пашыхтавалася кало-

## Але ж ён быў, быў бясстрашны народ...

на «Ікарусаў». Нейкія людзі з мегафонамі заклікалі ў аўтобусы, прапаноўвалі ехаць да Опернага, на іншы мітынг, нібыта прысвечаны памяці ахвяр. Як быццам той, іншы мітынг — правільны, а гэты чымсьці небяспечны, варожы і чужы...

На «правільным» у тэрміновым парадку асуджалі сталінскія рэпрэсіі. У Курапатах судзілі сталінізм, зрываючыся на несціхаючы крык: «Сталінскі генацыд!»

Сёння Сталін зноўку ў пашане, квітнее ягоны атрутны пасеў...

Але ці толькі таму зарос крыжовы шлях у Курапаты, што ў розных сваіх праявах адраджаецца сталінізм? А можа, таму і адраджаецца, што зарос шлях?

Ці не самі згубілі мы яго, гэты шлях, ператварыўшы традыцыйнае шэсце, пры ўсёй яго пякучай эмацыйнасці, толькі ў партыйна-апазіцыйна-мемуарнае мерапрыемства, якое збірае колькі-небудзь паплечнікаў, пакідаючы астатні народ, заклапочаны сваім будзённым існаваннем, у нерухомасці?

Справа нават не ў тым, колькі людзей пройдзе ў шэсці — 500 ці, як было заяўлена, 5000. Справа ў тым, што курапацкі боль так і не стаўся народным.

Але чаму?

Чаму хатынскі боль стаўся ў свой час народным, а курапацкі — не? Ці толькі таму, што тагачасная ўлада звозіла людзей у Хатынь цэлымі аўтобуснымі калонамі?

Так, не было амаль аніводнага жыхара Беларусі, які не выраніў бы слязу на папялішча Хатыні. І прапагандысцкае, аж да хлусні аб Хатыні, фарысейства ўлады тут ні пры чым.

Дык што, грошай, якія марнуюцца на розныя, у асноўным, замежныя семінары, сімпозіумы ды іншыя праявы апазіцыйнай дзейнасці, не хапіла б на тое, каб ладзіць заўсёднае наведванне Курапат жыхарамі розных вёсак і гарадоў Беларусі? Што, гэтых грошай не хапіла б на тое, каб дожыць даследаванні, выдаваць адпаведныя кнігі і ствараць хаця б невялічкі народны музей?

Так ці інакш, але аднымі шэсцямі раз на год не выхаваеш антысталіністаў, то бок нашчадкаў, здольных на маральныя пакуты за крывавае мінулае.

Але не, мы працягваем апеляваць да ўлады, думаем, што народ паслухмяна вернецца ў Курапаты, калі яна паставіць там абяцаны яшчэ ў мінулым стагоддзі помнік.

Але ў памяці і пакаянні не народ павінен хадзіць за ўладай, а ўлада за народам. Калі, зразумела, яны не страшацца адзін аднаго.

...Сёння ў курапацкім лесе, па абодва бакі стромкага, як на Галгофу, шляху, вырас лес крыжоў. На некаторых таблічкі з прозвішчамі ды імёнамі, іншыя з цэлымі сем'ямі, як у Хатыні. Дзе-нідзе бачны перакуленыя лампадкі да пагаслыя свечкі...

Крыжовы, яшчэ не пройдзены шлях.

# Такіх выбараў яшчэ не было

Назіральнік **заўважыў** не толькі маніпуляцыі з падлікам галасоў, але і **«каруселі»**.

Мы чакалі з публікацыяй гэтага матэрыялу месяц. Ці будзе хоць нейкая рэакцыя Цэнтрвыбаркама і пракуратуры на сігналы назіральнікаў? Рэакцыі — нуль. Справа ў тым, што на апошніх выбарах адбываліся рэчы, якіх нават на ранейшых не было. Як кажуць многія назіральнікі, у вялікіх гарадах, і Мінску ў тым ліку, у дзень галасавання на ўчасткі прыйшло толькі 25—30% выбарцаў. Але паўсюль афіцыйная яўка склала больш за 50%.

Праграміст Зміцер Прэдка на гэтых выбарах быў назіральнікам. «Я грамадзянін сваёй краіны і лічу сваім абавязкам садзейнічаць выкананню законаў».

Выбраў 101-ю Фрунзенскую акругу сталіцы. Кантраляваў выбарчы ўчастак №369, што размяшчаўся ў будынку былой СШ №156. Побач, у гэтым жа памяшканні, знаходзіліся і два іншыя ўчасткі — 367 і 368. І незалежных назіральнікаў было некалькі. Разам з Прэдкам працавалі Ірына Вярбоўская, Алесь Марчанка, Павел Каралёў.



Праграміст Зміцер Прэдка вырашыў выканаць грамадскі абавязак і стаў на апошніх выбарах назіральнікам.

### Рэзкая актыўнасць

«Цуды над скрынкамі» пачаліся з першага дня датэрміновага галасавання.

18 верасня яўка на ўсіх трох участках была нізкай: 2-3 чалавекі за гадзіну. Раптам за некалькі хвілін да 17-й колькасць ахвотных прагаласаваць значна вырасла. «Жанчыны пачалі падыходзіць адна за адной, каля сталоў выдачы бюлетэняў утварылася чарга», — расказвае Зміцер Прэдка.

Назіральнікі западозрылі невыпадковасць і наважыліся праверыць, што там робіцца каля будынка. Побач з участкам, за суседнім будынкам, Зміцер убачыў жанчын, што, прагаласаваўшы, сабраліся ў гурт. Іх было чалавек 60, яны стаялі вакол арганізатара — мужчыны ў касцюме. Заўважыўшы маладога чалавека, група пачала імітаваць сход жыллёвага кааператыва. Аднак, па словах Змітра, сход не клеіўся ад пачатку. І адзіным пытаннем, што сапраўды хвалявала натоўп, была прысутнасць назіральніка, што, найхутчэй, замінала абмяркоўваць фінансавыя таямніцы. «Я не стаў пачынаць здалёк і наўпрост запытаўся, чаму «сход кааператыва» галасуе на як мінімум трох розных участках».

Зразумеўшы, што сыходзіць Зміцер не збіраецца, мужчына абвясціў пра перанос сходу на няпэўны час і запэўніў, што ўсе пытанні будуць вырашаныя наступным разам.

Тым часам у памяшканні ўчасткаў Алесь Марчанка паспрабаваў спыніць «каруселі». На яго заўвагу старшыня камісіі Абрамава адказала: «Гэта народ такі свядомы». Калі мужчына выйшаў у калідор, убачыў там чаргу з жанчын, якім «куратарка» алоўкам рабіла нейкія пазнакі ў пашпарце. Ён папрасіў адну з такіх выбаршчыц паказаць пашпарт. Жанчына разгарнула дакумент на фотаздымку. Але там ніякіх пазнак не было. Тады Алесь папрасіў паказаць старонку з рэгістрацыяй, але жанчына схавала пашпарт і, раптам перадумаўшы галасаваць, сышла. Разам з ёй участак пакінулі і іншыя, у тым ліку «куратарка».



Старшыня камісіі сказала: «Гэта народ такі свядомы» »

Гэта жанчына, па сцвярджэнні назіральніка, галасавала не менш за два разы.

### Адна за адной

На наступны дзень, 19 верасня, каля паловы на першую, зноў рэзка ўзрасла колькасць ахвотных прагаласаваць датэрмінова. Чаргі не было, але, як толькі сыходзіла адна жанчына, адразу заходзіла іншая.

«Прасачыўшы за чарговымі «выбаршчыцамі», я давёў іх ужо да іншага мужчыны ў касцюме (гэтым разам досыць далёка ад участкаў), які акурат накіроўваў новую пару «карусельшчыц». Відаць, ён мяне таксама заўважыў, бо хутка перайшоў дарогу, імкнучыся не паварочвацца да мяне тварам», — узгадвае Прэдка.

20 верасня пачало чынніцца ўсё, каб толькі назіральнікі не маглі выкрываць «каруселі». Да іх завітала сябра акруговай камісіі і заявіла, што далейшыя звароты назіральнікаў да выбарцаў з мэтай праверыць месца іх рэгістрацыі будуць расцэньвацца як агітацыя (!), што з'яўляецца законнай падставай для выдалення з участка. Згодна з Выбарчым кодэксам, назіральнікі сапраўды не могуць апытваць выбарцаў і весці агітацыю. Але выглядае, што норма інтэрпрэтавалася такім чынам, каб найбольш абмежаваць іх.

Назіральнікі згадваюць камічны выпадак, які адбыўся з адным «афіцыйным» назіральнікам. Немаладому мужчыну ў адзін з дзён патэлефанавалі, а ён неяк уключыў гучную сувязь на тэлефоне і не мог адключыць. Дык яго інструктавалі, каб сам прагаласаваў на адным з гэтых участкаў, — відаць, ён там быў у спісах.

### Кватэраў больш за выбарцаў

21 верасня выбаршчыцы не стваралі натоўпу ў памяшканні ўчастка, затое спыняліся перад уваходам, на лесвіцы, у калідорах.

«Я вырашыў прасачыць за адной з жанчын, якая прыцягнула маю ўвагу паводзінамі, — яна ўсяляк пазбягала набліжацца да мяне (відавочна, пазнаючы назіральніка), кружляючы па школьных лесвіцах і паверхах. Толькі праз хвілін 15 яна дакружляла да суседніх участкаў, дзе была запісана на відэа».

Алесь Марчанка звяртае ўвагу, што выйшаў у калідор у адзін з чарговых наплываў «карусельшчыц». І калі з участка выйшлі дзве дзяўчыны, ён папрасіў у іх пашпарты. «Адна корпалася ў сваёй сумачцы і не магла знайсці дакумент. А затым сказала, што дзесьці яго згубіла. Гэта значыцца прагаласавала, а пашпарта няма! Другая ж дзяўчына сказала, што не абавязаная мне яго паказваць».

У апошні дзень датэрміновага галасавання ў старым памяшканні пакінулі адзін 369 участак: астатнія перасялілі ў іншыя месцы.

«Відаць, ужо з'явіліся новыя інструкцыі для «карусельшчыц», згодна з якімі ім раілі ўголас называць адрасы, па якіх тыя быццам жывуць. Гэтая гульня іх і выкрыла — чарговая круцелька назвала кватэру, якой не існуе. Яна настойвала, што жыве на вул. Адзінцова, д.4, кв.53, хаця дзяўчына з камісіі не адшукала аркуш з такім адрасам. А пікантнасць сітуацыі ў тым, што там размяшчаецца дзіцячы дом. Ён трапіў у спісы толькі праз тое, што там зарэгістравана асоба, якая ці то не паспела выехаць з яго па дасягненні паўналецця, ці то проста не змяніла месца рэгістрацыі», — расказвае Зміцер. А пасля таго, як ён сфатаграфаваў тую жанчыну, у памяшканне прыбег мужчына ў цывільным, патрабуючы выдаліць здымкі «яго з жонкай».

Прэдка таксама выявіў, што на 369-м участку наўмысна занізілі колькасць выбарцаў. На 1217 кватэр (без дзіцячага дома) тут было зарэгістравана 1109 выбарцаў. Старшыня камісіі заявіў назіральніку, што гэта таму, што тут... пражывае шмат расіянаў. Назіральнік не паверыў. На суседнім участку, да прыкладу, у 1096 кватэрах зарэгістравана 2128 выбарцаў.

У асноўны дзень галасавання Прэдка перайшоў на №376 выбарчы ўчастак. І дзесьці за гадзіну да закрыцця ўчастка пачаў заўважаць тых самых жанчын, якіх ён ужо бачыў на датэрміновым галасаванні. А на вуліцы Зміцер убачыў бела-зялёны аўтобус, у якім сядзелі «карусельшчыцы». За пару дзён да гэтага аўтобус бачылі на іншым участку: на ім забіралі тых, хто прагаласаваў.

Назіральнікі напісалі скаргі ў Цэнтрвыбаркам і пракуратуру. Па словах Алеся Марчанкі, атрымалі адпіскі. Старшыня акруговай выбарчай камісіі Вікторыя Аўраменка адказала, што факты «не пацвердзіліся». То бок заявы незалежных назіральнікаў, заўважае Марчанка, не былі прынятыя ў разлік. З Генеральнай пракуратуры адказалі, што падстаў для правядзення праверкі «не бачаць».

**Сяргей Макарэвіч**

Паводле афіцыйных звестак, выбары ў Фрунзенскай 101-й акрузе паспяхова адбыліся і быў пераабраны дзейны дэпутат палаты прадстаўнікоў Аляксей Кузьміч, член Камуністычнай партыі Беларусі.

Гэта тая акруга, якую дэмакратычныя сілы абралі для актыўнага байкоту. Па заявах незалежных назіральнікаў, у рэальнасці выбары тут не адбыліся праз невысокую яўку выбарцаў.



Гэта «карусельшчыца» даказвала, што жыве ў неіснуючай кватэры.

На гэтым аўтобусе падвозілі «карусельшчыц».

# Пахавалі мадэльку Ксенію Маркевіч

Бацькі **не верылі ў смерць** дачкі да апошняга.

Ксенію Маркевіч, якая была два з паловай месяцы ў вышуку, а затым яе не маглі апазнаць, прызналі мёртвай. Як паведаміла афіцыйная прадстаўніца Следчага камітэта па Мінскай вобласці Таццяна Беланог, экспертыза пацвердзіла, што знойдзенае цела належыць менавіта Ксеніі. Цела выдалі бацькам, і яны пахавалі дачку.

Прычына смерці дзяўчыны пакуль не высветленая. Па словах Таццяны Беланог, адказ на гэтае пытанне дасць дадатковая экспертыза, якая ўжо прызначаная. Следчыя разглядаюць некалькі магчымых версій смерці, у тым ліку і суіцыд.

Развітанне з Ксеніяй Маркевіч адбылося 26 кастрычніка ў Мінску. Царкоўную паніхіду па ёй збіраліся адслужыць яшчэ ў пачатку верасня, але бацькі адмянілі. Яны вырашылі чакаць вынікаў судова-медыцынскай экспертызы, спадзеючыся на лепшае.

Ксенія Маркевіч 17 чэрвеня пайшла з дому і не вярнулася. Цела дзяўчыны знайшлі грыбнікі 29 жніўня каля пасёлка Ратамка ў Мінскім раёне. Яе шукалі не толькі міліцыянты, але і добраахвотнікі з пошукава-выратавальнага атрада.

За два месяцы да сыходу з дому Маркевіч страціла любімую працу — была фотамадэллю. Перажывала праз гэта. Бацькі Ксеніі лічаць, што іх дачка не магла скончыць жыццё самагубствам, і лічаць гэта забойствам.

**Сяргей Макарэвіч**



# Двайны наезд на дзяўчыну на галоўным праспекце Мінска

Кіроўца «Рэно» — у шоку, дальнабой **пакінуў месца здарэння**.



Рэно пасля аварыі.

У нядзелю каля паловы на адзінаццатую вечара ў раёне 9-га кіламетра ў Мінску (пр-т Незалежнасці, 200) была збітая 23-гадовая жыхарка Смалявічаў. Дзяўчына пераходзіла дарогу побач з неасветленым нерэгуляваным пешаходным пераходам. Яе збіла машына Renault Laguna. Малады чалавек, які быў за рулём, не мог патлумачыць, што адбылося.

Адразу ж за легкавіком на дзяўчыну наехала фура Volvo з польскімі нумарамі, за рулём якой аказаўся гарадзенец. Ён не спыніўся на месцы здарэння і з'ехаў.

Сведкам наезду быў кіроўца «Аўдзі», што ўязджаў у сталіцы. Ён накіраваўся за фурай. І за некалькі кіламетраў ад горада перагарадзіў сваёй машынай дарогу. Дальнабой быў вымушаны спыніцца. Але кіроўца фуры адмовіў, што кагосьці збіў, і рушыў далей. Тады мужчына патэлефанаваў у міліцыю і паехаў за фурай, пакуль яе за трыццаць кіламетраў ад Мінска не затрымалі супрацоўнікі ДАІ.

Крымінальная справа заведзеная па артыкуле «Парушэнні Правілаў дарожнага руху альбо эксплуатацыі транспартных сродкаў, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека». Мера пакарання прадугледжваецца ў выглядзе папраўчых работ да двух гадоў альбо абмежавання ці пазбаўлення волі да пяці гадоў. Следства высветліць, ці ёсць віна кіроўцаў у тым, што адбылося. Абодва мужчыны, як паказала экспертыза, былі цвярозымі.

**Кастусь Матушыч**

# Двух жыхароў Гродна падазраюць у педафіліі

Злачынствы здзейсненыя ў розны час, але **ў адным раёне** абласнога цэнтра.

У Гродне вядуцца адразу дзве крымінальныя справы супраць маладых людзей, якіх абвінавачваюць у гвалтоўных дзеяннях сэксуальнага характару.

Прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці Сяргей Шаршаневіч адзначыў, што ў першым выпадку абвінавачваецца 26-гадовы гарадзенец. Па гэтай справе два пацярпелыя. Малады чалавек раней быў судзімы за гэткае ж злачынства.

У другім выпадку затрыманы — таксама жыхар Гродна, 29-гадовы. Па гэтай справе праходзіць адзін пацярпелы. Малады чалавек, па словах Сяргея Шаршаневіча, магчыма, таксама быў судзімы за падобнае злачынства на тэрыторыі Расіі. Цяпер такая інфармацыя правяраецца.

Абвінавачаным прызначаны судова-псіхіятрычныя экспертызы. Яны знаходзяцца пад вартай.

Сяргей Шаршаневіч заўважыў, што, як правіла, у такіх выпадках злачынцы не цягнуць сілай дзяцей да сябе дадому. Яны спачатку выклікаюць прыхільнасць да сябе і запрашаюць прайсціся з імі. Таму бацькам трэба больш увагі звяртаць на меры бяспекі і праводзіць выхаваўчыя размовы з дзецьмі.

**СМ**

**Фотафакт**




**Раман Мянцюк, асуджаны па справе «жывога шчыта», вызваліўся праз чатыры гады па амністыі. «Віну сваю я ўсведамляю і разумею, што паводзіў сябе безадказна. Аднак мяне выставілі злачынцам, не разбіраючыся ў тым, што адбылося. За тое, што я зрабіў — не падпарадкаваўся загаду ДАІ спыніцца і гнаў на вялікай хуткасці, — нельга пазбаўляць свабоды на 5 гадоў! Я не мог нават здагадацца, што машыны не едуць, а стаяць — без аварыйнай сігналізацыі, без габарытаў, проста на дарозе, ніяк не пазначаныя... Няўжо вы думаеце, што я за два тыдні да вяселля вырашыў усіх забіць? Тады мяне ў дурдом трэба садзіць, а не ў турму! Але гэта я цяпер разумею, што мяне ніхто не хацеў слухаць», — заявіў Мянцюк у інтэрв'ю tut.by.**

## Сцісла

### Напіўся за рулём — забяруць аўто

Генеральная пракуратура Беларусі рыхтуе прапанову па канфіскацыі аўтамабіляў у нецвярозых кіроўцаў. Мяркуецца зрабіць больш працяглымі тэрміны арышту ў выпадках, калі па віне кіроўцы загінулі людзі. Усе прапановы павінны быць сабраныя да пачатку лістапада, а затым пачнецца падрыхтоўка паправак у адпаведны закон.

### Краў ліставую сталь

Крымінальная справа за крадзеж у асабліва буйным памеры распачата ў дачыненні да 29-гадовага работніка МТЗ. Ён падазраецца ў крадзяжы 18 тон ліставой сталі. Падрабіўшы дакументы, мужчына папрасіў свайго калегу аформіць адгрузку металу на Бабруйскі завод трактарных дэталей і агрэгатаў. Той згадзіўся. Але метал так і не даехаў да завода — «асеў» у вёсцы ў Бабруйскім раёне.

### Падчас выбуху пацярпелі дэсантнікі

У часе тактычных вучэнняў на палігоне ў Гарадоцкім раёне параніла двух афіцэраў 103-й асобнай гвардзейскай мабільнай брыгады (Віцебск). Выбух адбыўся, па непацверджанай інфармацыі, падчас распальвання вогнішча. Магчыма, выбухнуў снарад часоў Другой сусветнай вайны, які знаходзіўся ў зямлі пад агнём. Аднаму з афіцэраў у бальніцы ампутавалі частку нагі. Следчы камітэт праводзіць праверку.

### Выкрылі наркалабараторыю

У Лідзе супрацоўнікі МУС спынілі канал пастаўкі сінтэтычных наркотыкаў у Мінск. 27-гадовы жыхар райцэнтра быў затрыманы пры спробе прадаць партыю амфетаміна. А па месцы жыхарства маладога чалавека выявілі цэлую лабараторыю па вырабе гэтага наркотыка і каля 20 кг рэактываў. Знайшлі яшчэ і марыхуану.

**КМ**

# «Мы можам быць не толькі хамячкамі»

**Чатыры тысячы беларусаў** прыехалі ў Літву слухаць забароненых на Радзіме «Ляпісаў».

Гэта рэкорд. 27 кастрычніка чатыры тысячы беларусаў выправіліся ў сталіцу суседняй краіны на канцэрт беларускага гурту. «Ляпіс Трубяцкой», забаронены ў Беларусі, даў аншлагавы канцэрт на віленскай «Прамогу Арэне».

Падчас песні «Я веру» палова танцпола стала на калені, нібы ў малітве. А пад «Грай!» людзі плакалі. Фанатам удалося прарвацца на сцэну і паціснуць рукі ўдзельнікам гурту.

«Атмасфера канцэрта нагадвала мінскую Плошчу: маса людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі, воклічы «Жыве Беларусь!» — дзеля такога не грэх было стаяць дзесяць гадзін на мяжы!» — кажуць відавочцы.

Дзесяць гадзін — гэта не перабольшанне. Раніцай 27 кастрычніка «Ляпісы» літаральна блакавалі мяжу. Чарга ў пункце пропуску Каменны Лог складала 180 аўто, у ціхай Катлоўцы — 140. Многія кідалі машыны ды рушылі ў Вільню пешшу. А што? Усяго-такі 30 кіламетраў!

Усім, хто набываў квіткі, пасольства Літвы давала кароткатэрміновую візу. Такі прыгожы жэст салідарнасці.

Суперсучасная спартовая «Прамогу Арэна» выкарыстоўваецца і для канцэртаў. Яна змяшчае 4 тысячы чалавек. Найтаннейшыя квіткі — на танцпол — каштавалі каля 20 даляраў. У сектарах — ад трыццаці. Асабіста я там сустрэла суседзяў, аднакурснікаў, калег па мінулай працы, якіх (ну дакладна) не чакала пабачыць. Жанчыны бальзакаўскіх гадоў, школьнікі, хто хочаш.

«Вітаем усіх людзей з актыўнай жыццёвай пазіцыяй! — выгукнуў у залу Сяргей Міхалок. — Мы разумеем, што гэта не проста ўвага да нашай сціплай персоны. Мы паказваем нейкае «юніці» (слэнгавае слова: адзінства — «НН»).

Франтмэн «Ляпісаў» выйшаў на сцэну ў шортах і бейсболцы, увесь у татуіроўках. Ён адгадаваў вусы. (Гэта цяпер у трэндзе.) Не скажаш, што саракагадовы дзядзька.

«Ляпіс» чаргаваў песні з новага альбома «Рабкор» з ранейшымі хітамі. Публіка вар'яцела ад энергетыкі, раўла «Жыве Беларусь!». «Вось так і трэба, без лішняга пафасу і палітычнай заангажаванасці крычаць тое, што нам падабаецца», — ухваляў Міхалок.

Ён звярнуў увагу, колькі лунае ў зале «нашых родных бел-чырвона-белых сцягоў». (Набыць іх, дарэчы, можна было проста ў холе «Прамогу Арэны».) Але ўсяляк падкрэсліваў, што канцэрт не мае палітычнай афарбоўкі. Маўляў, гэта не «перадвыбарная маніфестацыя», а «Ляпісы» — зусім не «нейкая палітычная субкультурная ячэйка»

Хоць тэмы «палітыкі» і забароны на «Ляпіс» Міхалок не пазбег — а як пазбегнеш. Творцу баліць немагчымасць выступаць на Радзіме. «Нягледзячы на абставіны, мы гатовыя сваволіць, весяліцца і радавацца, — казаў ён. — Гэтыя сволачы і нягоднікі, што строяць з сябе шаноўных мужоў, чакаюць ад нас нуды і суму, каб мы перабягалі са склепчыка ў склепчык, апусціўшы галаву».

З праціўнікамі Міхалок прапанаваў ваяваць «за кожны сантыметр асабістай свабоды»: «Давайце пакажам, што мы можам быць не толькі добрымі, прыязнымі і, як гэты прынята казаць, хамячкамі».

Паміж песнямі ён чытаў вершы а-ля Маякоўскі, устаўляў ёрніцкія прамовы: «Усе ведаюць, што Міхалок на гранты купіў сабе новыя мазгі. І з дапамогай заакіянскіх фітнэс-інструктараў і майстроў татуіровак быў засланы на нашу планету, каб разгойдваць лодку...»

Хтосьці з натоўпу прасіў «Сочы» і «Яблыні». Міхалок адмовіў: «Сёння мы сканцэнтруемся на тым, што нам падаецца актуальным». А аматарам «папсовых» песень параіў наведаць караоке-бары.

«На жаль, мы не можам выступаць па чатыры гадзіны, як вядомыя рок-гурты, седзячы на крэслах, — патлумачыў Міхалок. — Мы лічым сябе маладой перспектыўнай камандай!»

Скончыўшы традыцыйнай «Харэ, атработалі лавэ», «Ляпісы» схаваліся за кулісамі. Але пасля былі змушаныя публікай праспяваць яшчэ тры песні на «біс».

«Гэта крута!», «Гэта мая найлепшая вандроўка ў Вільню!», «Ляпіс — зэ бэст!» — казалі расчырванелыя фанаты, пакідаючы «Арэну».

Пасля Вільні «Ляпісы» сабралі аншлаг у Таліне. Перад Вільняй — аншлаг у Кіеве. А па-нармальнаму, то яны павінны спяваць у «Мінск-Арэне».

**Аксана Рудовіч, Вільня — Мінск**

**Відэа і фота з канцэрта глядзіце на сайце NN.by.**






АКСАНА РУДОВІЧ

**«У стане, блізкім да алкагольнай комы, пачалі размаўляць па-беларуску»**

«У аўтобусе на «Ляпісаў» з намі ехала розная публіка. Была 39-гадовая медсястра, напрыклад. Я думаў: «Ну, гэтая дакладна ў «Акрапаліс». Але пасля бачу цётку на канцэрце... Былі фанаты БАТЭ. Гэтыя перажываюць паступовы працэс нацыяналізацыі. Спачатку абмяркоўвалі, што сцягі бяруць на трыбуны. Пасля канцэрта ўжо казалі: блін, як клёва, што народ мову пазітыўна ўспрымае... А калі мы ехалі назад, у стане, блізкім да алкагольнай комы, яны пачалі размаўляць па-беларуску. Во што трэба было, каб іх падсвядомасць вызвалілася!»

**Расказаў карэспандэнту «НН» Зміцер С., доктар адной з мінскіх бальніц**

**«Ну, калі ўжо Ліпковіч...»**

«На мяжы наш аўтобус прастаяў чатыры гадзіны. І гэта па-за чаргой, а машыны ж у чарзе стаялі! Ужо адчай быў. Сядзім, чакаем, раптам бачым — блогер Ліпковіч тупае міма. «Ну, калі ўжо гэты хітры Ліпковіч пайшоў пешшу праз мяжу, значыць, можам не праехаць», —- змрочна сказаў знаёмы журналіст. Але абышлося. Памежнік літоўскі зайшоў у аўтобус, усміхнуўся: «Што, на канцэрт?»

**Расказала Алена К., супрацоўніца аднаго з мінскіх райвыканкамаў**

**«Жівье Бэларус!»**

«На канцэрце не было літоўцаў. Ні аднаго. А англамоўныя нейкія былі — крычалі «Жівье Бэларус!» Відаць, студэнты ЕГУ знаёмых прывялі. А так — усё нашы».

**Расказаў Аляксандр М., мінскі прадпрымальнік**



АКСАНА РУДОВІЧ

**Квіткі на «Ляпіс» у Вільні каштавалі**

Танцпол — каля 20 даляраў.

У сектарах — ад 30 і больш.

**«Рабкор»**

12-ы студыйны альбом «Ляпіса Трубяцкога». Песні да яго былі напісаныя ў Маскве, пасля забароны выступаць у Беларусі. Выйшаў у маі 2012. Утрымлівае хіты «Не быць скотам!» (на словы Янкі Купалы), «Рабкор», «Цмок ды арол», «Жалезны».

**«Чорны спіс»**

Спіс музыкаў-нонканфармістаў, якім негалосна забаронена канцэртаваць у Беларусі. «Ляпіс Трубяцкой» трапіў туды пасля таго, як Міхалок у інтэрв'ю рэзка пакрытыкаваў Лукашэнку.

## Абвешчаны конкурс на 2-ю Літаратурную прэмію імя Ежы Гедройца

Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі, Польскі Інстытут у Мінску, Беларускі ПЭН-Цэнтр і Саюз беларускіх пісьменнікаў другі раз абвяшчаюць Літаратурную прэмію імя Ежы Гедройца за найлепшую кнігу прозы, якая выйшла ў 2012 годзе на беларускай мове.
Адна з мэтаў прэміі — падтрымаць актуальных беларускіх пісьменнікаў, паспрыяць выхаду іх творчасці на міжнародны ўзровень. Прэмія прысуджаецца за найлепшую кнігу, выдадзеную (у папяровым або электронным варыянтах) у жанрах «мастацкая проза», «эсэістыка».
Абвяшчэнне і ўшанаванне пераможцы адбудзецца 3 сакавіка 2013, у Міжнародны дзень пісьменніка. Сярод узнагародаў — магчымасць выдаць кнігу ў Польшчы, літаратурныя стыпендыі і запрашэнні ў еўрапейскія Дамы творчасці.
Права прапаноўваць кнігі для ўключэння ў лонг-ліст прэміі маюць: сябры журы, дырэктары выдавецтваў, кіраўнікі творчых суполак і пісьменніцкіх арганізацыяў, лаўрэаты прэміі папярэдніх гадоў. Для намінацыі кнігі на прэмію неабходна даслаць або перадаць у сядзібу Беларускага ПЭН-Цэнтра заяўку ў адвольнай форме, далучыўшы пяць асобнікаў кнігі.
**Заяўкі можна дасылаць на адрас: 220050 Мінск, а/с 218.**

# «Мы не застаёмся абыякавымі да іх болю»

Водгук з інтэрната.

У Барысаўскім раёне побач з псіханеўралагічным домам-інтэрнатам у вёсцы Тарасікі фатограф «НН» Сяргей Гудзілін знайшоў могілкі, на якіх хаваюць псіхічна хворых пацыентаў. На рэпартаж адтуль прыйшоў водгук з дома-інтэрната, які паказвае, што там працуюць неабыякавыя людзі.

«Адміністрацыя і ўвесь калектыў ГУ «Барысаўскі псіханеўралагічны дом-інтэрнат» абураныя дадзенай публікацыяй. Тэрыторыя могілак займае амаль адзін гектар зямлі, пахаванні праходзяць з 1962, але наш калектыў знаходзіць час тры разы на год (да дня памінання памерлых — Радаўніца, летам, у разгар росту расліннасці, і ўвосень — да свята Пакрова) правесці ўборку і акультурыць тэрыторыю могілак. Штогод увесну да нас прыязджаюць наведнікі, не менш за 80 чалавек, каб памянуць сваіх памерлых сваякоў, і за ўсю бытнасць дома-інтэрната ніводнага наракання ў адрас таго, як выглядаюць могілкі, не было.

Мы разумеем, што дадзеная тэрыторыя выглядае не так, як хацелася б нам і людзям, але зрабіць з гэтым, на вялікі жаль, нічога не можам, бо на акультурванне тэрыторыі неабходна каля 65 мільёнаў беларускіх рублёў, якіх у дома-інтэрната няма. Неабходна мяняць плот па ўсіх могілках, што каштуе 36,35 млн беларускіх рублёў, таксама неабходная замена крыжоў і таблічак, а гэта складзе 18 млн рублёў, набыць абсталяванне для скошвання травы — гэта 7 млн рублёў, якіх у дома-інтэрната таксама няма.

Работнікі дома-інтэрната ў непрацоўны час прыходзяць на могілкі і прыбіраюць іх. Дом-інтэрнат стала атрымлівае падзяку ад сваякоў людзей, якія па волі лёсу знаходзяцца ў нас, а таксама мы атрымліваем падзякі ад сваякоў тых, хто ўжо пакінуў гэтае жыццё. Яны ўдзячныя нам за тое, што мы не застаёмся абыякавымі да іх болю, бо ў іх няма магчымасці забраць і пахаваць сваіх сваякоў самастойна, мы робім гэта за іх і ў далейшым стараемся сачыць за магіламі і наводзіць там парадак. Мы лічым, што, замест таго каб нас крытыкаваць, лепш бы аказалі дапамогу ў пошуку спонсараў, якія змогуць дапамагчы нам».

**Наталля, Барысаў**

# «Бяседа»: пачатак канца?

Канцэрт «Бяседы» адбыўся на Пакроў. У гэты цёплы дзень адчуванне свята сапраўды прысутнічала. Добры настрой падтрымаў і нечаканы сюрпрыз: на сцэну Палаца Рэспублікі выйшаў міністр культуры Павел Латушка, зачытаў вітанні.

Потым быў сам канцэрт, сустрэча з родным словам, з роднай песняй. Але трэба адразу зазначыць: першая палова яго прайшла з вельмі кепскім гукам. Альбо гукарэжысёра наогул не было, альбо ён невядома чым займаўся.

Пытанне, хто адказны за касцюмы для вакалістаў і музыкаў, не пакідала ўвесь час. Асабліва пасля чарговага пераапранання музыкаў. Як можна выйсці на сцэну ў такім выглядзе? Касцюмы бліскучыя, пашытыя з тканін усіх колераў вясёлкі.

Адным словам, нейкая бязглуздзіца ў стылі «чым горш — тым лепш». Такімі касцюмамі «Бяседа» ставіць сябе на адну дошку з найгоршымі прыкладамі расійскага кічу Бабкінай і Кадышавай.

У другім блоку канцэрта гучалі расійскія песні — тры ці чатыры. Ізноў, скажыце, калі ласка, навошта? Мабыць, «Бяседа» хоча скласці канкурэнцыю расійскім бабкам. Ёсць жа дурны прыклад ВІА «Сябры», якія адмовіліся ад роднай мовы і спяваюць расійскую папсу найгоршага кшталту.

На ўздыме адпрацаваў увесь канцэрт Валянцін Курыленка. Яму прызначалася большая частка кветак. Словаў удзячнасці заслугоўваюць і іншыя музыкі, якія добра і якасна робяць сваю справу.

Вельмі моцным было завяршэнне канцэрта: ужо традыцыйную «Аглаблёвую» зала спявала разам і стоячы. Апладысменты здаваліся бясконцымі.

**Лявон Дрозд-Быкоўскі, Мінск**

Алесь Кіркевіч

## «Не думай, што гэта лёгка»

Не думай, што гэта лёгка —
Чуць, як грызуць знутры
Сэрца тваё і лёгкія
З вечара да зары.

Але перамога салодкая
Вуснамі зліжа мёд:
Залежы, поўнач, ходка,
Рэйкі, калючы дрот…

Задратаванае сэрца
Сыпле вуголлем вон:
«Буржуйкі прыкрыйце дзверцу,
Каб не спаліць вагон…»

**In memoriam**

## Леакадзія Клюева

Пайшла з жыцця вядомая гарадзенская доктарка-фітатэрапеўтка Леакадзія Чаславаўна Клюева. Ёй быў 51 год.

Спадарыня Леакадзія дапамагла не аднаму чалавеку, выхавала і паставіла на ногі двух сыноў, якімі магла ганарыцца, дачакала ўнукаў. Знаёмыя назаўсёды запомняць яе ўсмешлівай, жыццярадаснай і поўнай веры. Спачуваем сям'і Клюевых, перадусім яе сыну Пятру — музыку, чалавеку ідэі.

Светлая Вам памяць і вечны супакой.

**Аляксей Шота, Гродна**

# Беларуская глыбіня. **Слава**

Піша Павел Севярынец.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Ад краю зямлі*
*мы чуем песню:*
*«Слава Праведнаму!»*
*Ісаі 24:16*

З'явіўся ён на складзе ўвесну — невысокі, сціплы, негаваркі. Гадоў сарака пяці на выгляд, з кароткастрыжанай сіваватай галавой. Слава, а як па-бацьку?.. Ды называй проста Слава.

Баптыст.

Баптыста Славу наняў наш гаспадар.

Найбуйнейшаму ў раёне складу аўтазапчастак з абаротам у мільярды штомесяц запатрабаваўся сумленны, адказны і цягавіты распарадчык, а тут ведама, што такога (ды яшчэ і незадарага) знойдзеш хіба толькі пратэстантаў.

Адзінае, от, не працуюць у нядзелю.

За савецкім часам ад Славы, кончанага алкаша і хулігана, ванітавала ўсю ваколіцу. Больш за 40 прыводаў у міліцыю, бойкі, п'янкі, суды... З развалам Саюза згубіў Слава і тое, што меў — дзяржаву, сям'ю, працу, кватэру... Некалькі гадоў увогуле бамжаваў (у пашпарце дагэтуль пропуск у рэгістрацыі — дзе жыў?). Дзевяць страсенняў мозгу, хворыя ногі, рука, якой не падымеш цяжар. Ён згадвае, і ўсе колішнія шнары ды расколіны растрэскваюць твар балючымі зморшчынамі. Руйнаваў д'ябал, ірваў, каб знішчыць, бо, пэўна, прадчуваў, што ў нейкі момант ён выдыхне, раптам убачыць па-над сабой неба і застогне... Госпадзе, ну ўсё... Я ж чалавек. Я так больш не магу. Божа, нават не веру... Памажы мне!

**Кожная свяча запальвання можа даць іскру да змены жыцця »**

Слава пакаяўся — і пайшоў у царкву. Абсталёўваў дом малітвы. Прапаведаваў Таго, Хто яго ўратаваў, у навакольных вёсках. Знайшоў жонку — верніцу, кіраўніцу тутэйшага Чырвонага Крыжа.

У царкве прапаноўвалі: ты ж нясеш гаспадарчае служэнне, будзем утрымліваць. Слава адмовіўся: апостал Павал, прапаведуючы, зарабляў на хлеб вырабам намётаў. Машыны няма — ровар. І вельмі хворы бацька.

Ну вось, падумаў я, пачуўшы ягоную гісторыю, трапіў ты, дзядзька: два вернікі ў заваленым запчасткамі танкавым ангары. Сказаць па шчырасці, на момант з'яўлення Славы я ўжо тут трохі даходзіў.

Калі праца прымусовая, ды яшчэ нудная, нервовая, калі даводзіцца забіваць і без таго занятую галаву тысячамі мёртвых жалезак, колькасцяў, адзінак вымярэння, прыходаў, расходаў, памылак, калі хранічна пераўтамляешся і ў адказ на град пытанняў тупа праварочваеш у мазгах толькі здагадкі, раз-пораз, губляючы трыванне, пачынаеш тлумачыць заклапочаным інжынерам ды механікам, чаму ты тут — сама патрэбнае цярплівае, ключык за ключыкам, навучанне з адмыканнем сэнсу: чаго ад цябе менавіта на гэтым месцы хоча Бог.

Што насамрэч кожная дробязь, кожная дэталька паслядоўна падлучаецца да механізма наладжвання стасункаў, рытму сэрцаў, руплівага рамонту свядомасці.

Што кожная свяча запальвання можа даць іскру да змены жыцця, а кожная гайка, няўлічаная на шалях, перапоўніць чашу цярпення.

Што ў кожным пытанні, і кожным чалавечым раздражненні, і ў кожным недаўменні — зерне тонкай размовы і ключавіна магчымага адкрыцця.

Што якраз дзеля гэтага Госпад гадамі выхоўвае і навучае...

«Вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца» — пасмейваецца Слава, — сказаў таварыш Ленін, і камуністы ўсё вучацца. А Ісус сказаў: «Навучыцеся»... «Навучыцеся ад Мяне, бо Я лагодны і пакорлівы сэрцам, і знойдзеце супакой душам вашым». Слава цытуе Біблію раздзеламі — на памяць.

Парадак на складзе Слава навёў за пару тыдняў, ціха і непрыкметна: спярша днямі даследаваў і перакладваў жалеззе, потым узяўся за справаздачы і накладныя і, нарэшце, прыступіў да людзей.

Трэба было бачыць, як ён адным-двума словамі ў адказ на запыханыя ды задыханыя скаргі на жыццё і працу ачомваў рабочых ды інжынераў. «Пачакайце хвілінку... Вы думаеце, гэта дапаможа? А вы не чулі, як Бог хоча вам дапамагчы?»

Слава дзяліў свой абед з «хімікамі» і кіроўцамі, размаўляў з бухгалтарамі і жанчынамі, што перабіраюць бульбу, выклікаў на шчырасць і недаверлівага гаспадара, і рабочых.

— О-о, Ігар! Прысаджвайцеся. Магу пачаставаць вас кафеінам... з пячэнькам, а? Ну, расказвайце, як яно.

Слава размаўляе проста і пераканаўча. Бог ёсць. Верыш? Добра. А куды ты пасля смерці збіраешся? Вырашай, што табе трэба. Хочаш жыццё вечнае? Бяры.

Гэткі душахват з гарачанькай гарбаткай і шчоўканнем грэцкіх арэшкаў.

Калі на складзе выдавалася зацішная хвіліна, Слава даставаў заўсёдную Біблію і трапна, амаль без даліствання, раскрываючы патрэбны раздзел, зачытваў. Бывала, заходзіш на працу — і ўнутрана збіраешся, як у прысутнасці Божай.

— Законы? А я жыву па нябёсных законах — тут.

Дапаможа заўжды, але і праўду скажа ў вочы. О, такім і ў царкве нялёгка — ды ці не на такіх камянях будуе Госпад Свой дом?

Дбанне аб сваіх абавязках у сапраўднага верніка ў крыві: робіш не для сябе і нават не для людзей — для Бога. Сведчыш пра Хрыста? — тады не маеш права не быць прыкладам сам. Але Слава ясна разумеў, што на скла-дзе галоўная сутнасць ягонай працы — адчыніць душам, якія блукаюць і пруцца ў пекла, выйсце. Дзелавіты, засяроджаны, як жа перажываў ён кожную памылку, кожны крок, які зрабіў у сумленні!..

Ён сведчыў усім, каго сустракаў, — ад сэрца. Не цягнуў, не валок сілком. Проста прыходзіў, паіў гарачай гарбатай і прапаноўваў: «Хочаш жыццё вечнае? Бяры».

— Заканчваецца мой час тут, — неяк сказаў мне Слава, — адчуваю, Бог дасць нешта іншае.

Славу спрабавалі ўлучыць у «каманду» фірмы. Размовы. Нарады. Прэміі. Скідваемся на дні народзінаў. Але ў людзей, з'яднаных зараблянием грошай, насамрэч няшмат агульнага з самотным і ўпартым вернікам. І «каманда» пачала Славу адпіхваць як чужака. Закон жыцця: слабое звяно.

Урэшце Слава паклаў заяву на стол.

Пасля бурнай, на некалькі гадзінаў, размовы з гаспадаром той не спаў усю ноч. Нараніцу — падпісаў звальненне без ніякіх прэтэнзіяў, кантрактаў і рэвізіяў. Сказаў: уначы прачнуўся, а ўвушшу голас: «Адпусці!»

«Шчасліва выраваўся», — напаўголаса праводзілі Славу рабочыя.

Склад апусцеў. Стол, за якім сядзеў Слава, перацягнулі ў бухгалтэрыю. Жыццё пайшло сваёй чарадой — але так, быццам жуеш без солі.

І раптам зваршчык Анатоль, з якім Слава бяседаваў у абед, прытарабаньвае ў бытоўку мех падабраных драўляных абрэзкаў: тапі, Паш, печку. І раптам — сусед-слесар Генадзь, маўклівы і ўнураны, знячэўку пачынае штодня частаваць цябе яблыкамі. А трактарыст-«хімік» Саня, якому Слава распавядаў пра Ісуса і якому вось-вось вызваляцца, просіць: «Не кідай мяне! Выйду — сап'юся. Завядзі ў царкву...»

Слава Богу, ёсць яшчэ такія людзі, як Слава. Самотныя. Ціхія. Непрыкметныя. Вандроўнікі. Тыя, хто не шукае славы сабе, а жыве паводле апошняга правіла Евангельскай Рэфармацыі, распачатай паўтысячы гадоў таму Радзівілам менавіта на Берасцейшчыне: Адзінаму Богу слава.

*Куплін*

# Ён быў тыпам беларуса ў яго найлепшым праяўленні

31 кастрычніка — сто гадоў з дня народзінаў літаратуразнаўца **Юльяна Пшыркова.** Піша Арсень Ліс.

Першую ў сваім жыцці манаграфію пра творчасць пісьменніка прачытаў у 1951. На вокладцы стаяла: «Якуб Колас. Жыццё і творчасць», а аўтарам быў Юльян Пшыркоў. Кніга была прыемнай неспадзяванкай: абяцала расказаць пра паэта, які духоўна няўзнак ужо быў прапісаны ў нашым доме. Маці спявала на паэтавы словы задумліва ціха:

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая,
Што маё сэрца да вас парывае,
Чым так прыкованы я?..

Словы, мелодыі гэтыя ляглі ёй на душу з маладосці, з 20-х гадоў, калі паэзія Купалы і Коласа ў Заходняй Беларусі была на слыху, сталася дзейнікам нацыянальнага ўсведамлення народа.

Быў і ў мяне з юнацкіх гадоў у памяці свой Якуб Колас. Асобныя вершы з чытанак і хрэстаматый у нейкія моманты паклікаліся прамовіць уголас. Як вось гэты:

Голасам моцы, ціха і важна
Гром пракаціўся ўгары.
Луг адазваўся грому працяжна,
Лес адгукнуўся стары.
Гай страсянуўся, дрогнула поле,
Долы той гук панеслі.
У гэтым раскаце чуецца воля,
Чуецца радасць зямлі.

Доўга неяк азывалася ў памяці інтанацыя, якой пачыналася апавяданне «Васіль Чурыла»: «Лес шумеў неяк вельмі нудна. Лес рэдка калі маўчыць...» Імя крытыка і літаратуразнаўца Юльяна Пшыркова для мяне ўжо нешта казала, калі паступаў у БДУ. Але асабіста пагаварыць з Юльянам Сяргеевічам удалося праз гады, ужо ў Акадэміі навук, дзе ён загадваў сектарам беларускай дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі.

На пачатку 60-х, падрыхтаваўшы тэкст кандыдацкай дысертацыі, я пайшоў у Інстытут літаратуры. У Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, дзе я скончыў аспірантуру, у той час не было Вучонага савета, дзе б я мог абараніцца. Не парушаючы субардынацыі, першнаперш я звярнуўся да дырэктара В.Барысенкі. Той адразу скіраваў мяне да загадчыка сектара беларускай савецкай літаратуры В.Івашына.

Васіль Уладзіміравіч прыняў неяк насцярожана. Яго можна было зразумець. Прэтэндэнт на абарону дысертацыі з'явіўся, лічы, з вуліцы. І тэма «Народна-паэтычная культура Заходняй Беларусі (1920—1939 гг.)» выклікала пытанне, калі не бянтэжыла. Не дадавала даверу да маладзёна, мне патлумачылі тое пазней, і імя майго навуковага кіраўніка члена-карэспандэнта АН БССР, прафесара Гутарава. У яго з паасобнымі навукоўцамі, аказваецца, былі не вельмі простыя адносіны.

Тады пошукі нейкай рады з абаронай дысертацыі прывялі мяне да Юльяна Пшыркова. Пачціва літаратура- і (пазней я ў гэтым пераканаўся) чалавеказнавец Юльян Сяргеевіч выслухаў мяне з звычлівай усмешкай, узяў мой опус для азнаямлення, сказаў зайсці праз колькі дзён. Не прамінуў выказаць спадзяванне, што ўсё павінна быць добра. Пры наступнай сустрэчы без агаворак выказаў згоду быць першым апанентам пры абароне дысертацыі.

Другі апанент як бы прадвызначаўся ўжо самой тэмай майго першага даследавання. Быў ім на той час адзіны спецыяліст на заходнебеларускай літаратуры Уладзімір Калеснік. Два гэтыя светлай памяці чалавекі, аўтарытэтныя вучоныя, літаратуразнаўцы і благаславілі мяне на працу па спецыяльнасці «фалькларыстыка».

Перабіраю фатаграфіі тых далёкіх дзён. За кафедрай на Вучоным савеце падчас абароны — Юльян Сяргеевіч і Уладзімір Андрэевіч, на той час — поўныя жыццёвых сіл, чалавечага, асабовага абаяння. На жаль, вобмаль было сустрэч. Звычайна кароткіх, выпадковых. А колькі можна было пачуць, даведацца жыццёва важнага, існага ад гэтых мудрых ад прыроды, шмат перажыўшых людзей.

Пазнаёміўшыся з Юльянам Сяргеевічам асабіста, я стаў пільней сачыць за тым, што выходзіла з-пад пяра паважнага літаратуразнаўца. Прачытаў яго апошнюю на той час кнігу «Беларуская савецкая проза (1920 — пачатак 30-х гадоў)». Цікава, павучальна было ўслед за росшукамі сталага даследчыка сягаць вытокаў апавядальнага жанру беларускай літаратуры, асэнсоўваць станаўленне аповесці, рамана. Тым больш, што ў канцы 1950-х стала даступная рэпрэсаваная літаратура і ў кнізе Ю.Пшыркова аналізавалася творчасць Максіма Гарэцкага, Цішкі Гартнага, Міхася Зарэцкага, Янкі Нёманскага. Узнаўляўся літаратурны працэс не ў рэдукаванай, як раней, форме, а ва ўсёй яго паўніні.

**Юльян Пшыркоў**

(31 кастрычніка 1912 — 23 снежня 1980), літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук, прафесар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа. Нарадзіўся ў в.Кісцяні на Рагачоўшчыне. Скончыў педагагічныя курсы ў Рагачове (1930); працаваў настаўнікам. Скончыў філалагічны факультэт Ленінградскага дзяржуніверсітэта (1939). З 1940 — у савецкім войску, удзельнічаў у баях пад Ленінградам і Кёнігсбергам; быў тройчы паранены. З 1945 супрацоўнік, з 1954 — загадчык сектара беларускай дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі Інстытута літаратуры АН БССР. У артыкулах «Новая зямля Я. Коласа» і «Дарэвалюцыйныя паэмы Я. Купалы» (абодва — 1940) адзін з першых выступіў з пераглядам вульгарна-сацыялагічных ацэнак гэтых твораў. Аўтар даследаванняў «Якуб Колас. Жыццё і творчасць» (1951, першая манаграфія ў коласазнаўстве), «Трылогія Якуба Коласа «На ростанях» (1956), «Беларуская савецкая проза. 20-я — пачатак 30-х гадоў» (1960), «А. Е. Богданович» (1966) і інш.



**Юльян Пшыркоў у 1953.**

Упершыню аб'ектыўна асвятлялася дзейнасць літаратурных аб'яднанняў 1920-х. Даследчык пераканаўча, доказна расчышчаў завалы вульгарнасацыялагічнай крытыкі ў дачыненні літаб'яднанняў «Узвышша», «Полымя».

У Юльяна Сяргеевіча, як і ў кожнага даследчыка літаратуры, культуры, былі свае прыярытэты. Асаблівую ўвагу літаратуразнавец аддаваў творчасці Якуба Коласа.

Уражвала аналітыка і сістэмнасць даследчыка пры вывучэнні ім трылогіі «На ростанях» і паэтычнага эпасу Якуба Коласа. Пазней я зарыентаваўся, адкуль гэтая грунтоўная аналітыка і сістэмнасць. Юльян Сяргеевіч яшчэ да вайны паспеў закончыць філалагічны факультэт і аспірантуру пры Ленінградскім універсітэце. Вучыўся ў славутага расійскага літаратуразнаўца Ігара Яроміна. Дарэчы, ленінградскую літаратуразнаўчую школу ўжо пасля вайны прайшлі беларускія спецыялісты па старажытнай літаратуры Аляксандр Коршунаў і Мікола Прашковіч, якіх на пачатку іх навуковай працы шчыра апякаў Юльян Сяргеевіч.

Апора на літаратуразнаўчую школу Ленінградскага ўніверсітэта для беларускай навукі сталася вельмі актуальнай. Страціўшы ў выніку рэпрэсій сваіх літаратуразнаўцаў Аляксандра Вазнясенскага, Івана Залюціна, Міхайлу Піятуховіча, Уладзіміра Дзяржынскага, Міколу Байкова, беларускае літаратуразнаўства пасляваеннага перыяду пачыналася практычна з нуля.

## У 1950-я Пшыркоў наноў адкрываў рэпрэсаваную літаратуру »

Юльян Пшыркоў, прыйшоўшы ў Інстытут літаратуры АН БССР, убачыў, што поле працы — шырокае, а ратаяў мала. Каб агледзець, навукова асэнсаваць шматвяковы шлях айчыннай літаратуры, яе творчыя здабыткі, патрэбны людзі кампетэнтныя і апантаныя, неабыякавыя да лёсу роднай літаратуры, культуры.

Спрыяў, дапамагаў апаніраваннем, як навуковы рэдактар, проста разумнай парадай перспектыўным літаратуразнаўцам Івану Навуменку, Алегу Лойку, Міколу Арочку...

Рэальна падтрымліваў і фалькларыстаў, у тым ліку ў будучым плённую даследчыцу традыцыйнай культуры беларусаў Лію Салавей.

Грамадска-навуковая пазіцыя Пшыркова-вучонага, яго клопат пра маладую змену прадвызначаліся, пэўна, яго чалавечай натурай. Дабрынёй, зычлівасцю свяціліся яго вочы з хітраватай усмешкай. Спакойнай, развaжлівай была манера гаварыць.

Прафесар Пшыркоў быў тыпам беларуса ў яго найлепшым праяўленні — разумнага і добрага, шчыра-праўдзівага ў людскіх дачыненнях чалавека. Прыемна было адчуваць яго чалавечы давер у размове, навуковую грунтоўнасць у развагах, працах па літаратуры.



**З маладым Алесем Адамовічам (злева) на першамайскай дэманстрацыі ў 1960.**




## ФУТБОЛ

### 30 тур

**3-4 лістапада адбудуцца чарговыя матчы чэмпіяната краіны па футболе.** Сустракаюцца: «Нафтан» (Наваполацк) — БАТЭ (Барысаў), «Мінск» — «Белшына» (Бабруйск), «Славія» (Мазыр) — «Нёман» (Гродна), «Шахцёр» (Салігорск) — «Дынама» (Мінск), «Гомель» — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна).

### «Валенсія» — БАТЭ

**7 лістапада ў Іспаніі** пройдзе гульня паміж «Валенсіяй» і барысаўскім БАТЭ ў рамках Лігі чэмпіёнаў. Трансляцыя будзе на «Беларусь-1».

## ІМПРЭЗЫ

### Першы дабрачынны Палацавы баль

**10 лістапада а 19-й у Нясвіжскім замку** пачнецца баль. Залы палаца — Залатая, Тэатральная, Гетманская, Паляўнічая — прапануюць вам разнастайныя танцавальныя, музычныя, тэатральныя і касцюмаваныя імпрэзы…

## КАНЦЭРТЫ

### Красёнцы жыцця

**5 лістапада а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — тэатральна-музычны праект «Красёнцы жыцця», прымеркаваны да 130-годдзя Я.Коласа

### Стары Ольса

**17 лістапада а 19-й у Палацы культуры ветэранаў (Я.Купалы, 21)** — выступае гурт сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса».

### Unia

**7 лістапада а 20-й у «Гудвіне» (пр.Незалежнасці,19)** — фолк-гурт «Unia» прэзентуе альбом «Едзем».

### Трыб'ют гурта «Кіно»

**11 лістапада а 18-й у Re:public (Прытыцкага, 62)** — трыб'ют гурта «Кіно». Бяруць удзел: кавер-бэнд «Кэпіталз», Раман Арлоў і «Ў нескладовае».

### Sounduk

**4 лістапада а 19-й у Маладзёжным тэатры эстрады** — Sounduk.




### Лістапад-2012

XIX Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» пройдзе ў сталічных кінатэатрах ад 2 да 9 лістапада, пакажуць карціны з 43 краін. Цырымонія адкрыцця кінафестывалю адбудзецца 2 лістапада ў Вялікай зале Палаца Рэспублікі.

Білеты коштам ад 50 да 110 тыс. рублёў можна набыць у касах палаца, а таксама на сайце kvitki.by.

### Halloween-2012

**31 кастрычніка а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — Halloween-2012. Бяруць удзел Imprudence, Re1ikt, Outsize, Soulsides, «Рокаш», Weeping Twilight, Exegutor.

## ВЫСТАВЫ

### Ходзіць Сон ля вакон…

**У Музеі гісторыі беларускай літаратуры (Багдановіча, 13) да 31 кастрычніка** працуе літаратурна-мастацкая выстава «Ходзіць Сон ля вакон...», прысвечаная беларускім калыханкам.




На выставе прадстаўлены літаграфіі Алены Лось, ілюстрацыі да кнігі «А па сенцах ходзіць Бай…» Марысі Лось, аўтографы калыханак беларускіх пісьменнікаў, а таксама лялькі з архіва Белтэлерадыёкампаніі, якія ўдзельнічалі ў розных выпусках праграмы «Калыханка».

### Выстава плаката

**Да 16 лістапада ў галерэі «Акадэмія» Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (Сурганава, 14)** працуе выстава студэнцкага плаката Акадэміі мастацтваў у Катавіцах. Плакат з'яўляецца эфектам пэўнага заказу, мае разнастайную тэматыку — грамадскую, ідэйную, культурную, рэкламную. Гэта вулічнае мастацтва, але на вуліцы ён не заканчвае свайго жыцця.

### Майстар і вучні

**Да 5 лістапада ў Мастацкім музеі (Леніна, 20) працуе выстава «Майстар і вучні»**, прымеркаваная да 70-годдзя з дня народзінаў віцебскага акварэліста Фелікса Гумена. У экспазіцыі паказаныя каля 80 жывапісных твораў майстра і працы ягоных вучняў — Мікалая Аўчыннікава, Людмілы Воранавай, Фёдара Кісялёва ды іншых.

### КРАЯ-ВІДЫ

**Да 17 лістапада ў галерэі візуальных мастацтваў NOVA (Кульман, 2, аўд. 421—423)** працуе польска-беларуская выстава «Края-Віды» — выбраныя фрагменты буйнейшых праектаў шасці фатографаў, якія ў сваіх працах, у пэўным сэнсе, паказваюць месца, дзе яны жывуць, яго гісторыю, яго недахопы або адметнасць сённяшняга дня.

### 150 гадоў беларускай чыгунцы

**Да 12 снежня ў Гістарычным музеі (Маркса,12) працуе выстава, прысвечаная 150-годдзю беларускай чыгункі.** Сярод экспанатаў: дакументы і фотаздымкі, узоры форменнага адзення работнікаў чыгункі розных часоў, макеты паравозаў, цеплавозаў, разнастайныя прыстасаванні і апараты.

### Ласкутны блюз

**Да 11 лістапада ў Доме-музеі I з'езда РСДРП** працуе выстава твораў майстроў ласкутнага шыцця «Ласкутны блюз». Ласкутная мазаіка — адзін з найцікавейшых відаў сучаснага дэкаратыўнавыяўленчага мастацтва. На выставе прадстаўленыя аўтарскія працы майстроў ласкутнага шыцця творчай студыі «Хобі-курсы».

## ТЭАТРЫ

### 31 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Оперы і балета** — «Рыта, альбо Пірацкі трохкутнік»

### 1 лістапада

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Юнага гледача** — «Сіні аўтамабіль»

### 2 лістапада

**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Лялек** — «Дзяды»
**Оперы і балета** — «Папялушка»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 3 лістапада

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 4 лістапада

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Церамцерамок»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Купалаўскі** — «Вечар»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

### 5 лістапада

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»

### 6 лістапада

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

### 8 лістапада

**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»

### 9 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

## КІНО

### Брэд Піт без гламуру

**Рабаванне казіно** (Killing Them Softly)
ЗША, 2012, каляровы, 97 хв.
**Рэжысёр:** Эндру Дамінік
**Ролі выконваюць:** Брэд Піт, Рычард Джэнкінс, Джэймс Гандальфіні, Рэй Ліёта, Скут МакНэйры
**Жанр:** Крымінальная драма
**Адзнака:** 4 (з 10)

Два небаракі абрабавалі казіно. Мафія наймае забойцу Джэкі Когана, каб знайсці вінаватых. Але крымінальная гісторыя — толькі нагода, каб паразважаць, што «гэтай краіне кранты».

Стужка Эндру Дамініка — драма з доўгімі дыялогамі, прадуманымі характарамі і шурпатымі пабытовымі дэталямі, у якіх вязне любое дзеянне. У савецкія часы такой карціне былі б гарантаваны шырокі пракат пад шыльдай «прагрэсіўнага крытычнага рэалізму». Сёння рэалістычны твор эксплуатуе крымінальную тэму, уводзячы ў зман аматараў баевікоў.

Зрэшты, на гэтым кіно лавіць ім няма чаго. Ёсць суровая драма, ёсць атмасфера Амерыкі, што згубіла свае мары і распадаецца, ёсць замалёўкі і жэсты жыццёвай праўды, дзе брудны дыямент — Брэд Піт.

**Андрэй Расінскі**



# Джыгурда вучыў мінчукоў любіць па-руску правільна

**Галоўны фрык** расійскай эстрады правёў творчы вечар у Мінску матам.

«Калі мы здымалі трэцюю частку «Любіць па-руску», працавалі ў Беларусі, тады я напісаў цэлы цыкл песняў на вершы Купалы, — расказвае расійскі спявак і акцёр Мікіта Джыгурда. — Магчыма, мы іх запішам у Кіеве, разам з хард-рокавым гуртом».

Ён лічыць сябе маральным нашчадкам Уладзіміра Высоцкага, эратычным мутантам, і, кажуць, з нядаўняга часу — Богам. З эфіраў расійскага тэлебачання Джыгурда не знікае — хто яшчэ возьмецца чытаць у жывым эфіры вершы, дзе з прыстойных словаў толькі прыназоўнікі.

«Мы здымалі тут трэцюю частку «Любіць па-руску», ніхто нам грошы не даваў на фільм, усе хацелі зрабіць яго сваёй агіткай перад выбарамі, а Бацька — даў! — раве са сцэны мінскага клуба «Мулен Руж» Джыгурда. — І вось я спяваю, ён сядзіць у першым шэрагу, вакол ахова, я спускаюся з мікрафонам, падношу яму. «Лююююбіць!!!» — крычу, а Бацька: «Па-рррускуу!!!» Я кажу: правільна».

Кветкі на канцэрт каштавалі ад 180 тысяч рублёў. Мэтавай аўдыторыяй Джыгурды аказаліся сямейныя кампаніі за сорак, дзе жанчыны носяць косы і хімічныя завіўкі, а мужчыны ледзь не фрак, і замаўляюць яны некалькі бутэлек шампанскага адразу, каб пасля стоячы піць пад тосты, якія Джыгурда прамаўляе са сцэны.

«Я зараз прачытаю верш, які Бацька мусіць прачытаць амерыканцам!» — крычыць Джыгурда. Прывесці тэкст верша мы не можам па маральна-этычных прычынах, але словазлучэнне «духоўныя п*расы» сустракалася ў звароце неаднаразова і гэта самае цэнзурнае.

Часам Джыгурда пачынаў расказваць, як здымаўся ў эратычных сцэнах. «Свой фільм «Эратычны мутант» я здымаў у Беларусі. У Расіі было нельга, казалі парнаграфія, а «Беларусьфільм» узяўся».

У канцы выступу Джыгурда прэзентаваў кнігу «Вертыкаль рускага мата, ці батарэйка Бога». «Мае знаёмыя філолагі сказалі, што такога ў расейскай літаратуры раней не было», — кажа артыст, які сапраўды ўзрадаваны тым, што кніга выйшла за тыдзень да прыняцця новага закона аб парнаграфіі.

Публіка ўспрымала вершы з яшчэ большым захапленнем, чым песні. Пад канец Джыгурда канчаткова перайшоў у вобраз бажавольнага, зламаў другі за вечар мікрафон, сарваў авацыю, упаў на калені і сышоў. Выклікалі на біс.

**Юрась Ускоў**



КІРЫЛ ХІЛЬКО



# Аляксандра Герасіменя стала рэкламным тварам «Беларусбанка»

Гэта **рэкордны кантракт** у беларускай спартыўнай галіне.

«Беларусбанк» падпісаў кантракт, згодна з якім двухразовая срэбраная медалістка Алімпійскіх гульняў у Лондане па плаванні Аляксандра Герасіменя стала рэкламным тварам арганізацыі.

Як адзначыў намеснік старшыні праўлення гэтай фінансавай установы Ілля Шаланкі, «зрабіўшы прапанову Аляксандры аб супрацоўніцтве, мы ніколькі не сумняваліся, што знайшлі менавіта таго чалавека, якога хочам бачыць рэкламным тварам нашага банка. Акрамя спорту, Саша займаецца дабрачыннай дзейнасцю, з'яўляючыся адным з актыўных удзельнікаў дабрачыннага праекта «Мары здзяйсняюцца», які аказвае дапамогу хворым дзецям».

Сума кантракта Аляксандры Герасімені складае 100 тысяч даляраў, з'яўляецца рэкорднай для краіны ў спартыўнай галіне.

**Sport.tut.by**

# 12.12.2012 — вясельны бум у беларускіх загсах

Чарговае нашэсце маладых чакаецца ў загсы краіны ў снежні. Як расказала начальнік аддзела ЗАГС Маскоўскага раёна Мінска Наталля Філімонава, на дадзены момант ужо пяць пар падалі заявы на рэгістрацыю ў гэты дзень. Мяркуецца, што асноўная колькасць заяў паступіць у найбліжэйшы час.

Спецыяліст прывяла ў якасці прыкладу аналагічную дату мінулага года — 11.11.2011. Тады ў гэтым загсе вальс Мендэльсона прагучаў 33 разы.

Папярэдні запіс на дзень заключэння шлюбу можна рабіць і ў інтэрнэце, але 30% пар, якія папярэдне запісаліся праз інтэрнэт, не прыходзяць падаваць заяву ў загс.

І трохі статыстыкі. 07.07.2007 у загсе Маскоўскага раёна заключылі шлюб 30 пар, з іх да гэтага часу развяліся пяць. А вось з васьмі пар, што пабраліся шлюбам 09.09.2009, разышліся ўжо тры пары.

**БелТА**



PHOTO.BYMEDIA.NET

# Windows 8 арыентаваная на сэнсарныя экраны

Новая аперацыйная сістэма **паступіла ў продаж** па ўсім свеце.

26 лістапада кампанія Microsoft пачала продажы новай аперацыйнай сістэмы — Windows 8. Аднак беларускамоўнае меню ў ёй пакуль што так і не з'явілася. Між тым платформа прадстаўлена на дзясятках іншых моваў.

Новая аперацыйная сістэма будзе адрозніваецца ад папярэдніц арыентацыяй на работу з сэнсарнымі экранамі. Карыстальнікам стане прасцей уводзіць даныя пальцам.

Карпарацыя Microsoft зрабіла платформу больш мабільнай. Так, Windows 8 будзе адначасова ўстанаўлівацца на персанальныя і партатыўныя камп'ютары, планшэты і смартфоны.

З моманту выпуску папярэдняй аперыцыйнай сістэмы — Windows 7 — мінула амаль тры гады. Усяго ў свеце больш за 1,3 мільярда чалавек карыстаюцца аперацыйнымі сістэмамі кампаніі Microsoft.

**ЯМ**

# У 2013 годзе з'явіцца даменная зона .БЕЛ

Адрасы сайтаў можна будзе **пісаць на кірыліцы**.

Налета, як чакаецца, будзе ўведзена кірылічная даменная зона .БЕЛ. Магчымасць зарэгістраваць даменныя імёны будуць мець як фізічныя, так і юрыдычныя асобы. Пра гэта паведаміў дырэктар ТАА «Хостер Бай» Сяргей Павалішаў.

Некалькі гадоў таму чыноўнікі ваганіся між двума магчымымі варыянтамі наймення дамена — .РБ і .БЕЛ. Спыніцца вырашылі на апошнім.

Гэта значыцца, што, напрыклад, «Наша Ніва» атрымае магчымасць зарэгістраваць дадатковае імя «Нашаніва.бел» для зручнасці некаторых карыстальнікаў.

**ЯМ**

## Прыватныя абвесткі

### САДОК

**У беларускамоўную групу 314-га дзіцячага садка г.Мінска**, вул. Багдановіча 68а, т. (017) 334-25-61, 334-50-25, патрэбны выхавацель. Патрабаванні: педагагічная адукацыя, жаданне працаваць у беларускамоўным асяродку. Кантракт на 1 год з магчымасцю працягу.

### КВАТЭРА

**Здыму 1-2-пакаёвую кватэру** ў цэнтры Мінска, пажадана без мэблі. Т.: (029) 632-12-75 (Вольга).

**Маладая беларускамоўная пара** шукае 1-пакаёвую кватэру ў Мінску (да 250 у.а.). Т.: (029) 595-84-20 (Арцём).

### КАНТАКТЫ

**Шукаю партнёра**, пажадана беларускамоўнага, для рэгулярнай гульні ў настольны тэніс у раёне б-ра Шаўчэнкі. Узрост і пол значэння не маюць. Т.: (044) 743-78-63, (029) 761-88-84 (Зміцер).

**Шукаю беларускамоўных псіхолагаў** для стварэння сумеснага праекта. Калі ласка, пішыце на адрас: vraketskaya@yahoo.com.

### ПРАЦА

**Малады чалавек** з гістарычнай адукацыяй шукае працу ў Полацку/Наваполацку. Валоданне англійскай і польскай мовамі. Разгледжу любыя прапановы. Т.: (029) 597-19-82.

### СПАЧУВАННІ

**Калектыў Дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду** Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь выказвае спачуванні кансультанту Дзяржаўнай харчовай інспекцыі Шукала Святлане Андрэеўне ў сувязі з дачаснай смерцю бацькі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Іспанскі комплекс БАТЭ. У сёмы раз беларускі чэмпіён гуляў з камандамі з Іспаніі і ў сёмы раз саступіў. БАТЭ — «Валенсія» — 0:3. Усе тры галы ў вароты Андрэя Гарбунова забіў Раберта Сальдада. Ён прыязджаў у Мінск ужо другі раз за два тыдні. Праўда, падчас гульні Беларусь — Іспанія яму не далі выйсці на поле.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Турыстычная кампанія «Кола падарожжаў» зладзіла незвычайны турыстычны прома-тур па беларускай сталіцы. Падчас экскурсіі ў Музычным завулку, каля Дома масонаў, адбылася інсцэнізацыя затрымання апошняга сябра масонскай ложы «Паўночная паходня».**



GAZETABY.COM

**Курбан-Байрам адзначылі беларускія мусульмане. На фота: малітва гродзенскай грамады мусульман.**



**Брытанцы, паводле апытання сайта Jackpotjoy, выбралі самую панурую знакамітасць. Ёй стала Вікторыя Бэкхэм.**

## Анекдоты

* * *

У ваенкамаце:

Доктар-оталарынголаг шэптам: «Трыста пяцьдзясят!»

Прызыўнік на ўвесь голас: «Дорага!»

* * *

Яна была практыкуючай бландзінкай.

* * *

Трапляе беларускамоўны ў пекла. Праз дзень чорт тэлефануе святому Пятру.

— Пятро, прыбраў бы ты гэтага чалавека на неба.

— А што ён такога ўжо робіць? — пытаецца святы Пётр.

— Ды дэмаралізуе страшна. Убачыўшы, што мы да яго на ягонай мове звяртаемся, пачаў упэўніваць чарцянят, што тут рай. Потым, стоячы па вушы ў кіпячым алеі, з відавочнай асалодай штохвіліны прасіў мяне: «Спадар Шатан, будзьце ласкавы запарыць мне кубак свінцовай гарбаты».

* * *

Лукашэнка сказаў, што ў яго няма меркавання пра групавы сэкс. Не можа быць! Хоць нешта ў яго няма пункта гледжання!

* * *

— Добры дзень, гэта вам з КДБ тэлефануюць.

— Я ведаю.

— Адкуль?

— Вы мне на выключаны мабільнік датэлефанаваліся.

* * *

У Беларусі выявілі апошняга чупакабру Еўропы.

* * *

Калі ў вас няма праблем, праверце — ці ёсць у вас пульс.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Фесеўка. Горацкі павет.** У цыгана Н. вечарам кабета, запаліўшы запалку, стала нешта шукаць на тапчане, пад якім было поўна лёну. Ад іскаркі лён загарэўся. На гвалт кабеты збеглася сям'я. Замест таго, каб гарэўшы лён патушыць, яны павыцягвалі яго на хату, дзе ён захапіўся так, што нельга было нічога зрабіць, як толькі ратаваць свае жываты. Сяліба згарэла, жывёлу выгналі. Што справіліся выхапіць з хаты, у тлуме нехта пакраў.

**«НН». №43—44. 1912.**

**Павел Якубовіч:** «У Беларусі няма неабходнасці ствараць прарасейскую партыю, бо тут вельмі шмат людзей, якія да сёння не зусім заглядаюць у календары. Ім усё, што здарылася пасля 1991, падаецца нейкай гульнёй, прычым інсціраванай з Масквы. Лукашэнка нікому не хоча быць абавязаны, таму яму «партыя ўлады» па вызначэнні непатрэбная».

**«НН». №40. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8120. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 30.10.2012.
Замова № 4429.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 12040